*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

**Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990г.)**

**№ 36(196)**

**7 верасня 1994 г.**

**Кошт -- 15 рублёў**

***«Няма жыцця ў крайнасці»*** *Стар. 2-3*

***Пра ліцвінаў і белых ваўкоў Паўлы Урбана — тры грошыкі*** *Стар. 6-7*

***Што такое «русский стиль» рукапашнага бою?*** *Стар. 8.*

## Усе газеты чытае толькі наш Прэзідэнт

Адбылася рабочая сустрэча начальніка ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі ў прэзідэнцкай адміністрацыі Аляксандра Фядуты з журналістамі. На ёй у асноўным закраналіся пытанні ўзаемаадносін Прэзідэнта і прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі. Аляксандр Фядута паведаміў прысутным, што Прэзідэнт вельмі ўважліва чытае ўсе газеты. Прычым, гэта датычыць не толькі інфармацыі аб ім самім і аб адміністрацыі кіраўніка дзяржавы. Яго цікавяць усе паведамленні, якія з'яўляюцца ў газетах. У бліжэйшы час спадар Фядута мае намер сустрэцца з працоўнымі калектывамі ўсіх рэспубліканскіх выданняў і абмеркаваць праблемы, якія хвалююць журналісцкія калектывы. Журналістам было паведамлена, што сур'ёзнаму рэфарміраванню плануецца падвергнуць Нацыянальны прэс-цэнтр. Замест яго будзе створана інфармацыйная база для атрымання журналістамі неабходнай статыстычнай, афіцыйнай і іншай інфармацыі.

Кіраўнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі запрасіў журналістаў прыняць удзел у распрацоўцы нацыянальнай інфармацыйнай канцэпцыі. а таксама да больш актыўнага абмеркавання праекта закона аб друку, пра які было сказана, што яго яшчэ рана выносіць на абмеркаванне ў другім чытанні на будучую сесію парламента, бо прапанаваны варыянт не адпавядае многім патрабаванням.

**Б. І.**

## *З афіцыйных крыніц*

* * *

*З 22 жніўня Рэспубліканскі Палац дзяцей і моладзі пачаў запіс хлопчыкаў і дзяўчынак у свае гурткі і калектывы, якіх больш за 200.*

* * *

*У нашай краіне ідзе конкурсны адбор твораў для Міжнароднай выставы дзіцячага малюнка, якая пройдзе ў японскім горадзе Канагава. Конкурс працягнецца да 30 верасня.*

* * *

*31 верасня ў Гродзенскім дзяржуніверсітэце адкрыта некалькі новых факультэтаў. Першы набор зрабіў факультэт замежных моў (спецыяльнасць «Класічная мова і літаратура», а таксама руская мова як замежная. Яе будуць вывучаць замежнікі).*

* * *

*Менскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Якуба Коласа сёлета выпусціла падручнікі 75 назваў агульным накладам 1,5 мільёна.*

* * *

*На базе Менскага Палаца дзяцей і моладзі аддзелам інтэлектуальнай творчасці «Адораныя дзеці» праведзена чарговая алімпіяда навучэнцаў на лепшую навукова-даследчую работу. За тры дні ў пленарных і секцыйных пасяджэннях узялі ўдзел больш за 750 чалавек, у тым ліку 460 навучэнцаў — аўтараў навуковых работ, 160 настаўнікаў — навуковых кіраўнікоў, 57 навуковых супрацоўнікаў ВНУ і АН Беларусі, 62 супрацоўнікі пазашкольных устаноў. У 27 секцыях і падсекцыях абмеркаваны 382 даклады. Экспертныя журы прысудзілі дыплом I ступені — 41, II — 38, III ступені — 34 навучэнцам.*

* * *

*У хуткім часе ў Шчучыне з дапамогай школьнікаў адкрыецца этнаграфічны музей. Сярод яго экспанатаў — прадметы хатняга ўжытку, вырабы вучняў і народных майстроў.*

*Не складайма ж рук!*

## Каталонцы адрадзілі сваю мову

Становішча каталонскай мовы ў Каталоніі нечым нагадвала становішча беларускай мовы ў Беларусі: яна, пасля шэрага забаронаў — апошняя была скасавана трошкі меней за сорак год таму — паступова траціла свае пазіцыі ў грамадстве, выцяснялася з ужытку блізкай ёй, да таго ж дзяржаўнай іспанскай мовай. (Варта зазначыць, што той, хто ведае іспанскую мову, без асаблівых цяжкасцей зразумее і па-каталонску.)

З падыходам ліберальных парадкаў — акурат як у Беларусі —энтузіясты і патрыёты Каталоніі паставілі задачу вярнуць народу ягоную спрадвечную мову. Было створана таварыства каталонскай мовы, якое павяло руплівую працу, падключылася культурная інтэлігенцыя. I вось вынік іхняе рупнасці — маса школ з каталонскай мовай навучання, масавае навучанне дзяцей у роднай мове.

Па прызнанню актывістаў ім моцна дапамог рок-н-рол, які дужа спрыяў прасоўванню каталонскай мовы ў маладзёжнае асяроддзе.

Не абыходзіцца ў Каталоніі і без знаёмых нам пратэстаў звышпільных бацькоў. Ёсць такія, што пратэстуюць супраць «засілля» каталонскай мовы ў школах Каталоніі, маўляў, гэта звужае шанцы іхніх дзяцей на атрыманне адукацыі па-за межамі радзімы. Кансерватызм, ён усюды кансерватызм! На гэтым, бадай, паралелі між намі і імі канчаюцца. Няма ў іх шалёнага аплёўвання каталонскай мовы з дзяржаўнай трыбуны. Няма ціхага сабатажу дзяржаўнай мовы «інтэрнацыянальным» чыноўніцтвам. Няма там і такіх псеўдаінтэлігентаў, як адзін наш даволі вядомы, з прэтэнзіяй на папулярнасць спявак, што ў газеце «Культура» ўздыхае па «всесоюзной» аўдыторыі, ці другі, які з тэлеэкрана бесхрыбетна пагаджаецца ўздыхнуць па «вялікай дзяржаве». «Я не магу зрабіць каласальнае турнэ па Лацінскай Амерыцы, —зазначае адзін з папулярных каталонскіх спевакоў рок-н-рола,—але мне дастаткова таго, што я спяваю для сваіх дзяцей і іхніх сяброў».

У свой час — гадоў сто таму — каталонская буржуазія паставіла перад сабой амбіцыйную мэту: зрабіць сваю сталіцу Барселону найпрыгажэйшым горадам Іспаніі. I трэба зазначыць, вельмі шмат чаго дамаглася. Але ж свая буржуазія — раскоша. Нам імперыя не дазваляла мець аднаасобніка!

Цяпер у нас шанцы адрадзіцца значна пабольшалі. Не складайма ж рук!

**Мікола БУСЕЛ,**
**в. Дуброва.**

## ПОСТУП ТЫДНЯ



**УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ** Міністрам адукацыі і навукі назначаны Васіль Іванавіч Стражаў. Да гэтага В. Стражаў займаў пасаду намесніка міністра адукацыі.

***31 ЖНІЎНЯ Ў ПРАМЫМ ТЭЛЕЭФІРЫ АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ З ГРАМАДЗЯНАМІ НАШАЙ КРАІНЫ.*** *Прэзідэнт адчуваў сябе бадзёра і ўпэўнена.*

**МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АДМОВІЛА** ў рэгістрацыі статута Партыі падтрымкі СНД, установчая канферэнцыя якой адбылася 21 чэрвеня.

***У ЧАС СВАЙГО ЗНАХОДЖАННЯ Ў БАНСКА-БЫСТРЫЦЫ*** *на ўрачыстасцях у гонар 50-годдзя Славацкага нацыянальнага паўстання прэм'ер—міністр Беларусі Міхаіл Чыгір перадаў Прэзідэнту Славацкай Рэспублікі Міхалу Ковачу запрашэнне Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі наведаць нашу краіну з афіцыйным візітам. Запрашэнне было прынята. Кіраўнікі ўрадаў Беларусі і Славакіі дамовіліся аб пастаўцы ў Беларусь 100 тысяч тон цвёрдай пшаніцы ў абмен на беларускія тавары.*

**ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПАДПІСАЎ** распараджэнне аб стварэнні камісіі па праверцы дзейнасці памежных войскаў нашай краіны. Узначаліў яе Пётр Чаус. Дакласці аб рабоце, праведзенай камісіяй, П. Чаус павінен да 5 верасня гэтага года.

***ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ*** *аб правядзенні да кастрычніка гэтага года справаздачна-выбарчых канферэнцый і сходаў у рэгіянальных арганізацыях, якіх налічваецца больш за пяцьдзесят. У канцы года або на пачатку новага мае адбыцца чарговы з'езд партыі, на якім адным з важнейшых пытанняў будзе пытанне аб падрыхтоўцы да парламенцкіх выбараў.*

**КАБІНЕТ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ ЎПАЎНАВАЖЫЎ** Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла нашай краіны ў ЗША Сяргея Мартынава на падпісанне Крэдытнага пагаднення паміж Кабінетам Міністраў Беларусі і Міжнародным банкам рэканструкцыі і развіцця аб пазыцы на развіццё лясной гаспадаркі. Што ж, грошы патрэбны і лесу.

***ДА КАНЦА ПАДПІСНОЙ КАМПАНІІ ЗАСТАЛОСЯ ЎСЯГО ТОЛЬКІ СЕМ ДЗЁН!*** *Калі вы яшчэ не падпісаліся на «Наша слова», зрабіце падпіску сёння. Кошт «Нашага слова» на месяц: 100 рублёў, на квартал: 300 рублёў. Індэкс 63865. Заставайцеся з намі!*

АЛЕ!

## Не «Фандок», а «Фандак»

Сёлета на футбольныя палі Еўропы выйшлі менскае «Дынама» і бабруйскі «Фандок». Дарэчы, вельмі прыемна, што табло стадыёна «Дынама» асвоіла беларускую мову. Праўда, на маю думку, трэба пісаць «Фандак», бо назва каманды азначае «Фанерны дрэваапрацоўчы камбінат». Хацелася б, каб гэта памылка была выпраўлена. Усё-такі «Фандак» прадстаўляе нашу краіну на еўрапейскай футбольнай арэне, а дробязей у падтрыманні міжнароднага аўтарытэта не бывае.

**Мікола ЛІННІК.**
**г. п. Радашковічы.**

## Добры прыклад перыферыі

Журналісцкія пуцявіны прывялі мяне сёлета на Шчучынскі завод сельгасінвентару, што знаходзіцца ў вёсцы Вялікае Мажэйкава. Быў тут упершыню і, прызнаюся, атрымаў прыемныя ўражанні. Ужо ў калідорах заводакіраўніцтва звярнуў увагу, што рознага роду інфармацыйныя паведамленні ды аб'явы напісаны на дзяржаўнай мове. Размаўляю з сакратаркай прыёмнай, дырэктарам і іншымі супрацоўнікамі і з іх вуснаў чую добрую беларускую гаворку.

Дырэктар завода Іван Грыневіч паведаміў мне, што ўсё справаводства ў калектыве вядзецца па-беларуску з 1993 года. А каб кадры абнавілі і замацавалі свае веды ў роднай мове, перад гэтым арганізавалі курсы. Настаўніца мясцовай школы Ніна Лябецкая добра дапамагла спецыялістам. Нямала зрабілі для адраджэння беларускасці і актывісты ТБМ імя Ф.Скарыны.

На невялікім, аддаленым ад райцэнтра заводзе ўпэўнена гучыць матчына мова. Словам, перыферыя паказвае прыклад суседнім Шчучыну і Лідзе.

**А. ЖАЛКОЎСКІ,**
**сябра ТБМ імя Ф.Скарыны.**

РУПЛІЎЦЫ

# «Няма жыцця ў крайнасці»

***Так калісь сказаў любімы Аляксеем Марачкіным Язэп Драздовіч, развіваючы тую думку, што нішто ў свеце не жыве ў агні і марозе і толькі паміж імі ўсё расце, цвіце і красуе.***

***Творчасць А.Марачкіна, на маю думку, якраз і захоўвае ў сабе тую разумную меру, што дае магчымасць жыць і развівацца яго мастацтву. Яна спрасавана ў роўную дарогу паміж небяспечнымі крайнасцямі жыцця і ўраўнаважваецца яго спрадвечнымі каштоўнасцямі: дабрынёй, любоўю, спагадай ды верай у светлую будучыню мілай Бацькаўшчыны. Ён нарадзіўся ў 1940 г. у вёсцы Папоўшчына на Магілёўшчыне. Скончыў два інстытуты — Віцебскі педагагічны (1962) і Менскі тэатральна-мастацкі (1972). Пачатак творчасці прыпадае на сямідзесятыя гады. Ужо раннія работы паказалі, што Беларусь займела мастака глыбока нацыянальнага, удумлівага, што засяроджваецца на пытаннях адвечных і глабальных, на забытых і непазнаных старонках гістарычнага жыцця народа («Гуканне вясны», «Сведкі мінуўшчыны», «Нацюрморт з бульбай» і інш.). Рамантык, філосаф і смелы эксперыментатар у мастацтве Марачкін карыстаецца як традыцыйнымі сродкамі адлюстравання, так і сучаснымі, што працуюць на асацыятыўнае ўспрыманне («Структура»). Сэнс яго многіх палотнаў сімвалічны і шматзначны («Размова аб вечнасці»). Творчасць Марачкіна служыць задачам беларускага адраджэння, праходзіць пад знакам «Пагоні».***

***З мастацкіх дасягненняў вылучаецца серыя партрэтаў «Выдатныя дзеячы гісторыі і культуры Беларусі» («Рагнеда», «Ефрасіння Полацкая», «Вітаўт», «Францішак Скарына», «Сымон Будны», «Сімяон Полацкі», «Кастусь Каліноўскі», «Іван Луцкевіч», «Цётка», «Максім Багдановіч і Вераніка» і інш.), цыкл «Паданні і легенды Беларусі», створаны па фальклорных і міфалагічных матывах («Чорная дама Нясвіжа», «Прывіды зімы», «Машэка», «Каралева вужоў», «Выпрабаванне духу» і інш.), палотны, створаныя пад знакам «Чарнобыля» («Планета Палын», «Воблака», «Хадора», «Маці Божая ахвяраў Чарнобыля», «Магутны Божа» і інш.).***

***Сёння А.Марачкін у добрай творчай форме. Ён блізкі да завяршэння новай серыі жывапісных партрэтаў — «Нашы сучаснікі». У 1992 годзе мастак атрымаў з рук Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча найвышэйшую ўзнагароду радзімы — медаль Францыска Скарыны.***

**— Напачатку гаворкі хацелася б пачуць, у якіх умовах фарміравалася асоба Аляксея Марачкіна. Не адразу ж Вы сталі мастаком і адраджэнцам. Адкуль Вашы карані?**

— Калі гаварыць пра вытокі, то трэба пачаць з дзяцінства: з бацькоў, з Езерскай беларускай школы, у якой вучыўся, і з навакольнага асяроддзя. Бацькі мае — сяляне, а родная вёска Папоўшчына была пабудавана пры НЭПе на ўраджайнай зямлі, на так званых папоўскіх надзелах. Сёння яе, чарнобылкі, ужо няма — дзве хаткі засталіся. Вёску будавалі з вялікім энтузіязмам маладыя сем'і, у тым ліку мае бацькі, — хацелі быць гаспадарамі. Пры хатах — вялікія гумны. І раптам прыйшоў калгас, і пачалі гэтыя гумны і што ў гумнах адбіраць, некуды звозіць. Прапала наша гаспадарка. Маці ўвесь час працавала ў полі. Яна была для мяне прыкладам таго, як чалавек працуе, бы тая пчолка, і фактычна нічога не мае. Бацька, адзіны з усёй вёскі, ацалеў — вярнуўся з фронту. Пасля вайны працаваў бібліятэкарам. Акрамя таго, што зямлю араў і сена касіў, трымаў у руках і кнігу. Я яшчэ да школы навучыўся чытаць. Першай кніжкай, якую мне падалі на печ, быў беларускі буквар. Другой кніжкай, якую чытаў з захапленнем, сталі казкі Пушкіна. Пазней я даведаўся, што Арына Радзівонаўна паходзіла з Беларусі і фактычна ажывіла талент Аляксандра Сяргеевіча нашымі спрадвечнымі паданнямі і легендамі. На маёй бацькаўшчыне не толькі пакутавалі, але спявалі і весяліліся. Я захаваў светлую памяць пра свайго дзеда Андрэя, суседзі яго звалі то Балатуй, то Магніт. Быў ён казачнік і чараўнік, загаворваў ваду, лячыў дзяцей. Адбыў палон у імперыялістычную вайну, адкуль прынёс заходнюю культуру. Мяне малога навучыў спяваць венгерскія і аўстрыйскія песні. У нас быў свой казачнік, свой музыкант, свой лірнік Захарыя, свой садоўнік, свой рацыяналізатар — змайстраваў радыё і аэрасані. І быў чалавек, асуджаны пры Сталіне. У вайну па загаду немцаў ён збіраў па вёсках кажухі. Рабіў гэта, каб не прыстрэлілі. Яго судзілі як фашысцкага памагатага. Калі вярнуўся з ГУЛАГа, то сядзеў у чужой хаце як нямы, толькі слухаў, што гавораць.



Усе мае аднагодкі, з якімі гуляў, раслі сіротамі, без бацькоў-франтавікоў. Я з імі бегаў па казачна прыгожых нашых урочышчах, такіх, як Крывы Нос, Глухая Навіна, Архіпавы Штаны, Чыстая Лужа. Там раслі гожыя сосны і бярозы, паўсюль было шмат грыбоў. Светла ўспамінаю настаўніка роднай мовы і літаратуры Пятра Рыгоравіча, які выхоўваў у сваіх вучняў любоў да роднай літаратуры і роднага краю. Мы яго слухалі на ўроках так, што было чутна, як муха пралящіць. Настаўнікі ж рускай мовы прымусілі мяне саромецца сваёй «дзеравеншчыны». Яны нам казалі: «Вы покалеченный народ. Когда вы научитесь говорить правильно и писать грамотно? У вас ужасное произношение» і г. д. У мяне развіўся комплекс непаўнацэннасці. Я адчуваў сябе прыніжаным. Толькі ў малюнку я адчуваў сябе ўпэўнена, ведаў, што тут ужо маю работу не перакрэсляць чырвоным алоўкам, якога я страшэнна баяўся. І так адзіным паратункам для мяне стала маляванне. У мастацкае вучылішча я не прайшоў — атрымаў нездавальняючую адзнаку па рускай мове. Паступіў на мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута. Давялося далучацца да гарадской русіфікаванай культуры. Я быў да яе непрыстасаваны і зноў жа пакутаваў ад комплексу непаўнацэннасці: ніяк не мог навучыцца КАКаць і ЧЕВОкаць. І толькі калі вяртаўся да бацькоў, станавіўся самім сабою. Мужчыны дзівіліся: «Што гэта ты, Аляксейка, з горада прыйшоў, а па-нашаму гаворыш?»

**— Калі вы сталі рускамоўным?**

— «Дзеравеншчыну» я стаў выбіваць з сябе на другім курсе, каб далучыцца да сапраўднай, як тады думаў, культуры. Хацелася стаць цывілізаваным чалавекам, тым больш, што ў горадзе інакш не было як жыць. У вёсцы я саромеўся гарадскога адзення і расійскай мовы, у горадзе — наадварот, вышыванай кашулі і сваёй роднай гаворкі.

**— А што адбылося пасля заканчэння ВНУ?**

— Я працаваў настаўнікам малюнка і чарчэння ў школе на Брэстчыне. Адтуль пайшоў у армію, дзе пачалося асэнсаванне мастацтва, яго ролі ў грамадскім жыцці. Я чытаў спецыяльную літаратуру, а ў Барысаве арганізаваў мастацкі гурток для афіцэраў. Тады ўпершыню я адчуў, што мастацтва — мой адзіны шлях і нічым іншым у

МЕРКАВАННІ

# Яшчэ раз аб нацыяналізме

***Сёння далакопы беларушчыны — ад бальшавікоў да расійскіх вялікадзяржаўных шавіністаў — зліліся ў адзіную плынь у барацьбе супраць нацыянальнага Адраджэння нашай Бацькаўшчыны. Яны бессаромна льюць патокі бруду на тых, хто гарыць жаданнем вярнуць усё тое нацыянальнае, што стагоддзямі рабавалася нашымі больш магутнымі суседзямі з мэтай пасеяць сярод беларусаў гістарычнае бяспамяцтва.***

У саўмінаўскай прэсе, на радыё і тэлебачанні былыя бальшавіцкія ідэолагі нямала тужыліся, каб стварыць вобраз пачварнага страшыдлы — беларускага нацыяналізму, — які нібыта толькі і марыць, каб, захапіўшы ўладу, нацкаваць людзей адзін на аднаго. Але якімі б шатамі яны ні прыкрываліся, з-пад іх убору яўна прагледжваецца пераніцаваны, выцвілы мундзір сумнавядомага французскага капрала Шавінэ, праўда, ужо з эмблемай драпежнага двухгаловага арла.

Дзіўна атрымліваецца: калі ты любіш сваю Бацькаўшчыну, размаўляеш на матчынай мове, ты — нацыяналіст. Патрабуеш выканання Закона аб мовах — нацыянал-радыкал. Выступаеш за вяртанне гістарычнай спадчыны, адраджэнне нацыянальнай культуры — русафоб, падаеш свой голас супраць «калектыўнай бяспекі» — прадаеш Рэспубліку Беларусь «заакіянскім акулам». Не згодны на канфедэрацыю, тым больш, на федэрацыю —нацыянал-ізаляцыяніст. Не ўспрымаеш, рашуча адхіляеш расійскі вялікадзяржаўны шавінізм — ты ўжо «ваяўнічы нацыянал-шавініст». Колькі ярлыкоў наклеена на кіраўнікоў нацыянальна-адраджэнцкага руху на Беларусі, на свядомых беларусаў — не пералічыць! Мэта вакханаліі магільшчыкаў беларушчыны — запалохаць міфалагічнымі выдумкамі аб «крыважэрнасці» беларускіх «нацдэмаў».

Паняцце «нацыяналізм» трактуецца ў марксісцка-ленінскай філасофіі (калі, вядома, такая філасофія ёсць) як ідэалогія і палітыка прапаганды нацыянальнай выключнасці і нацыянальнай перавагі пэўнай нацыі над іншымі. У той жа час марксізм-ленінізм прызнае, што ад нацыяналізму трэба адрозніваць справядлівае гістарычна-прагрэсіўнае імкненне да нацыянальнай незалежнасці прыгнечаных народаў, якія змагаюцца за нацыянальнае вызваленне. Менавіта да такой катэгорыі належыць і Беларусь, якую на працягу вякоў суседзі імкнуліся сцерці з палітычнай карты свету, растварыць яе мову ў рускай ці польскай. Гэта гістарычны факт, якога не абвергнеш ніякімі доказамі. Дарэмныя натугі звышінтэрнацыяналістаў давесці, што толькі ў выніку кастрычніцкага перавароту Беларусь атрымала самастойнасць як нейкі падарунак з рук крамлёўскіх бальшавіцкіх валадароў. Магільшчыкі беларушчыны адшукалі на сметніку гісторыі: нават рудымент кнорыншчыны, паводле якога «ідэя беларускай дзяржаўнасці — выдумка буржуазных інтэлігентаў-нацыяналістаў». Царызм, як і бальшавізм —аднолькавыя лютыя ворагі беларускай нацыі. Толькі царызм амаль не хаваў уласных задум у сваёй палітыцы на Беларусі (духоўны генацыд), а бальшавіцкія ідэолагі той самы генацыд загортвалі ў паперку «інтэрнацыяналізму». І ўсё ж, цяперашнія апалагеты звышінтэрнацыяналізму забываюцца пра адзін з галоўных пастулатаў інтэрнацыяналізму, дзе гаворыцца, што ён — за раўнапраўе ўсіх народаў, за павагу і прызнанне сацыяльна-гістарычнай і культурнай спадчыны народаў усяго свету.

Звышінтэрнацыяналісты на Беларусі растапталі згаданы тэзіс. Яны сфальсіфікавалі сапраўдную гісторыю Беларусі, выкрасліўшы факты, якія былі непажаданыя вялікадзяржаўным шавіністам. Яны прыклалі ўсе намаганні, каб кіпцюрамі вырваць з цела беларускай нацыі яе душу — нацыянальную мову, прыкрываючыся антыгуманнай тэорыяй «зліцця моў». Кульмінацыяй гэтага працэсу ў нас стала паўсюднае закрыццё беларускамоўных школ. Звышінтэрнацыяналісты добра разумелі, што калі вырваць душу нацыі, то нацыя абавязкова перастане існаваць як адзінка грамадскай супольнасці і непазбежна растворыцца «в великом, могучем российском народе».

Для большай пераканаўчасці праімперскія гісторыкі чырвонага колеру зацята культывіруюць мілую іх сэрцу тэорыйку аб адзіных каранях трох славянскіх народаў. Але калі корань дрэва адзіны, то для жыцця можна пакінуць толькі адну галіну на дрэве гэтага кораня, а дзве іншыя высекчы. І секлі, секлі бязлітасна, што аж трэскі ляцелі з беларускай і ўкраінскай галінаў. Зараз маладыя беларускія гісторыкі, абапіраючыся на летапісы і іншыя гістарычныя дакументы, дашчэнту развянчалі тэорыю адзінага кораня, выкрылі яе ілжывую сутнасць. Вядома, гэта выклікала вострае супраціўленне заскарузлых «навукоўцаў» ад гісторыі.

А што доўгі час рабілі звышінтэрнацыяналісты з нашай культурнай спадчынай? Даходзіла да поўнага абсурду: забаранілі, напрыклад, агучваць беларускія кінафільмы, знятыя на кінастудыі «Беларусьфільм» па-беларуску. Вось вам і клопат аб росквіце беларускай нацыянальнай культуры. Хоць агульнавядома, што любая нацыянальная культура можа развівацца толькі на роднай мове, а гістарычная спадчына спрыяе і садзейнічае развіццю нацыянальнай мовы. Без роднай мовы і гіста-

## РУПЛІЎЦЫ

жыцці займацца не змагу.

**— Вы ўжо былі падрыхтаваны да таго, што станеце мастаком нацыянальным?**

— Тыя зерні, што закінулі ў душу матчыны песні і песні нашага вясковага лірніка Захарыя, любімы настаўнік, прараслі, як вучыўся ўжо на мастака. Падтрымаў гэтае кволае зерне і прафесійны мастак Лявон Баразна, з якім я пасябраваў і якога неўзабаве забілі. Ён мне казаў: «Ты па-гарадскому не гавары, ты гавары па-свойму». Лічу, што ад пагібелі ў рускамоўным асяроддзі ўтрымаў мяне менавіта Баразна, які дапамог усвядоміць, што ў беларусаў свая багатая культура і распрацаваная прыгожая мова, якой не трэба саромецца.

**— Сямідзесятыя гады вызначыліся рэпрэсіямі ў адносінах да нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Гэта была акцыя машэраўскай каманды. Як Вы аднесліся да падзей, што адбываліся тады ў Акадэміі навук і іншых культурных цэнтрах? Ці памятаеце знакамітае паўстанне ў Слуцку?**

— Тады я яшчэ не быў нацыяналістам у добрым сэнсе гэтага слова, хоць і сябраваў ужо з Баразной. Аднак аб нацыянальнай праблеме ўжо задумваўся. Памятаю, што пасля інцыдэнту ў Слуцку, калі народ падпаліў будынак суда і ў агні згарэла суддзя, у нашым інстытуце памяняліся ўсе натуршчыкі. Гэтыя дзіўныя мужчыны ўвесь час правакавалі нас, студэнтаў, выклікалі на палітычныя размовы, шукалі сярод нас «контру».

**— І вось Вы тэатральна-мастацкі інстытут скончылі...**

— Я пераехаў з сям'ёй у Менск і пачаў працаваць з Віктарам Маркаўцом, блізкім мне па духу, у цесным заканурку пры школе. Мы з ім чыталі Караткевіча, Багдановіча, аднак апошняя кропля «жывой вады», якая б канчаткова ўмацавала нацыянальную ідэю ў сэрцы, на нас яшчэ не пралілася. Я не быў чужым чалавекам у нацыянальным мастацтве, але я спавядаў толькі тое, што ведаў, а менавіта беларушчыну. Мой «Нацюрморт з бульбай» вельмі спадабаўся Віктару Шматаву. Мы з ім аднойчы прыгадалі трагічную смерць Баразны, і ён мне сказаў: «Толькі Бацькаўшчына павінна нас натхняць. Гісторыя народа і любоў да роднай мовы. Па таму, як ты да іх будзеш адносіцца, цябе ацэняць будучыя пакаленні». Я памятаю, як з таго дня крута ў маім жыцці ўсё змянілася. Вельмі крута. Мы з Маркаўцом пазнаёміліся з Алесем Разанавым, пачалі шукаць аднадумцаў.

Пайшоў працэс адраджэння. Адраджаліся абрады купальскія, калядныя, гукання вясны. Нас не прызнавалі, за намі сачыла КДБ. Адчуваючы гэта, мы збіраліся тайна. Нелегальна адсвяткавалі 100-гадовы юбілей забароненага мастака Казіміра Малевіча, ініцыятарамі вечарыны былі Разанаў, Маркавец, Копша і я.

**— Як Вы кантактавалі з сябрамі «Майстроўні» і «Талакі»? Мастакі-адраджэнцы ішлі паралельным, асобным шляхам?**

— Можна сказаць, што паралельным, але не асобным. Мы сустракаліся разам, праводзілі сумесна розныя імпрэзы, абмяркоўвалі набалелыя пытанні нашага адраджэння. Дарэчы, я падкінуў «талакоўцам» песню сваёй бабулі Марылі «Дробна-драбніца, дробна-драбніца, дробны дождж ідзе». Талакоўцы зрабілі яе папулярнай і нават славутай. Цяпер яе часта выконваюць па радыё. У мяне захоўваецца афіша «Гуканне вясны», зробленая сябрамі «Талакі». «Гуканне» адбылося ў парку імя Купалы. Як я тады радаваўся, што дажыў да такой, як мне здавалася тады, значнай падзеі ў нацыянальным жыцці. Мастакі-адраджэнцы аддавалі дань павагі арганізатарам «Талакі» — Сяргею Вітушку, Вінцуку Вячорку, яго жонцы Арыне і іншым.

**— Якія падзеі Вы лічыце важнымі ў сваёй дзейнасці?**

— Выратаванне спадчыны Язэпа Драздовіча — яго дываноў, што зараз знаходзяцца ў нацыянальных музеях Беларусі. Шкадую, што раней не пачаў іх збіраць. А так многае страцілася. У заслугу сабе стаўлю і выставы твораў Драздовіча, якія прайшлі ў Менску.

**— Раскажыце пра ўласную творчасць і пра свае выставы.**

— Асноўная выстава маіх твораў адбылася ў сувязі з маім пяцідзесяцігоддзем. А да гэтага прайшла выстава ў Полацку. Яны даюць уяўленне аб этапах маёй творчасці. Памятаю, як працаваў над серыяй партрэтаў «Выдатныя дзеячы гісторыі і культуры Беларусі». Тады небезвядомы спадар Іскрык мне параіў: «Навошта табе пісаць партрэт Драздовіча? Хочаш, дам параду: намалюй партрэты выдатных сучаснікаў, пачынаючы ад Сяргея Прытыцкага, і ты выйдзеш на Дзяржаўную прэмію БССР». Я адказаў яму, што ў такім разе няхай гарыць гарам гэта прэмія, і пачаў ствараць партрэты Рагнеды, Кастуся Каліноўскага ды іншых славутых продкаў. Скажу, што ніколі не займаўся прапагандай гэтых партрэтаў, а яны ж, калі і не этап, то ва ўсякім разе веха ў маёй творчасці. Так атрымалася, што некаторыя партрэты не выстаўляліся (забараняла цэнзура), а тыя, што выстаўляліся, напрыклад «Вітаўт», «Іван Луцкевіч», выклікалі злосныя папрокі ў мой бок: як жа ты феадала Вітаўта і нацыяналіста Луцкевіча прапагандуеш? Дэмакратычная прэса гэтыя мае працы заўважыла, і мне за іх ніколі не было сорамна, наадварот, лічу, што яны —маё творчае дасягненне.

**— Цяпер Вы ствараеце серыю партрэтаў нашых сучаснікаў?**

— Партрэты сучаснікаў, якія я пішу, выклікаюць страшэнную нянавісць у русіфікатараў, у прыватнасці, з «Советской Белоруссии» і «Мінскай праўды». Апошняя выбухнула гнюсным артыкулам у чэрвені г. г. («Крэсла для прэзідэнта, ці Куды клічуць нас новыя «апосталы» ад мастацтва»). Карэспандэнт Дзіна Трызна абураецца, што Марачкін прапагандуе скандальна-вядомага Алега Бембеля, піяніста па адукацыі, былога фатографа Зянона Пазьняка, «фальсіфікатара гісторыі» Міколу Ермаловіча, кіраўніка Беларускага згуртавання вайскоўцаў Міколу Статкевіча і іншых.

**— Іх партрэты выстаўляліся?**

— Выстаўляліся ў гэтым годзе суполкай «Пагоня». Выстава адбылася ў гонар свята 25 сакавіка. Мы пастанавілі штогод да гэтай даты ладзіць выставы.

**— Хто яшчэ ўвойдзе ў серыю партрэтаў нашых сучаснікаў?**

— Планую напісаць партрэт першага прэзідэнта Беларусі. Даць гэту асобу ў сваёй інтэрпрэтацыі.

**— А што вы скажаце пра цыкл «Паданні і легенды Беларусі», які меў вялікі поспех на выставе вашых твораў у Доме літаратараў у 1992 г.?**

— У цыкле 12 палотнаў. Яны закуплены Гродзенскім музеем. Сёлета будуць выстаўляцца ў Нямеччыне на еўрапейскім форуме сусветных казак.

**— Як складваюцца Вашы сувязі з замежжам?**

— Мае творы набылі Міланская галерэя ў Італіі і музеі Нямеччыны. У Нямеччыне мае творы выстаўляюцца кожны год. Гэта нацюрморты, пейзажы, работы эстэцкага плана і нават авангардысцкага. У Нямеччыне мастакі стварылі дабрачынную асацыяцыю, якая аказвае беларускім чарнобыльцам гуманітарную дапамогу.

**— З якога часу Вы сталі актыўным барацьбітом за нацыянальнае адраджэнне Беларусі?**

— З часу падзей у Траецкім прадмесці, калі вучням з мастацкай школы імя Ахрэмчыка заломвалі рукі і пагражалі ўтапіць у Свіслачы, і ад вядомых падзей на Дзяды, калі мяне і такіх, як я, што прыйшлі на Маскоўскія могілкі памянуць продкаў, травілі газам і запіхвалі ў міліцэйскія машыны. Мае хросныя бацькі — камсамольскія і партыйныя дзеячы, Іван Антановіч і яго памагатыя. Гэта быў ход адразу ў рух Народнага фронту. Першыя гады пасля ўтварэння БНФ я шмат працаваў разам з Зянонам Пазьняком — і ў Аргкамітэце, і ў Сойме. На адраджэнцкай хвалі стаў загадчыкам кафедры жывапісу ў Беларускай акадэміі. На работу ў Фронце, на жаль, не хапае часу, хоць, вядома, ва ўсіх значных акцыях, якія праводзіць БНФ, я прымаю ўдзел.

**— Вы не астылі да БНФ?**

— Не астыў, хаця ўжо таго энтузіязму, які ў мяне быў на пачатку, зараз няма — кажу гэта шчыра. Хаця ўсё, што ад мяне залежыць, раблю для Фронту, удзельнічаю ў яго мерапрыемствах. Мая непасрэдная задача рыхтаваць выставы суполкі «Пагоня», старшынёй якой я з'яўляюся. А гэта ж выставы франтаўскія.

**— А як ставіцца да «Пагоні» наша дзяржава?**

— Дрэнна ставіцца. Калі ўтварылася Канфедэрацыя тэатральных дзеячаў і творчых саюзаў, якую ўзначаліў артыст Яроменка, саўмін выдзеліў і сродкі, і памяшканне. Наша ж «Пагоня» не атрымала ні рубля, не даюць і памяшкання. Мы працуем на голым энтузіязме.

**— Вашы планы на будучыню?**

— Планую працягваць далей работу над партрэтамі сучаснікаў. Акрамя таго, хачу ажыццявіць пэўныя ідэі і па сваёй рабоце ў Беларускай акадэміі. Сёння дзякуючы нашай незалежнасці, дзякуючы таму, што мы хоць нечага дабіліся, можна як ніколі рэалізоўваць свае планы і задумы. Тым больш, што адкрыўся шлях на Захад, завязваюцца міжнародныя кантакты. Можна сказаць, што жыву паўнакроўным творчым жыццём і духам не падаю.

**— Што Вас насцярожвае ў сённяшняй палітычнай сітуацыі?**

— Мяне насцярожваюць сцвярджэнні нашых кіраўнікоў, што спярша трэба накарміць людзей, а тады ўжо шукаць Крыж Ефрасінні Полацкай. Гэта вялікая памылка. Я чуў перадачу пра Японію, дык там адраджэнне духоўнага стану грамадства ішло наперадзе эканамічнага адраджэння.

**— Што Вам удалося зрабіць на пасадзе галоўнага мастака Беларусі?**

— Я адказваў за мастацкі ўзровень прадукцыі, якая выконвалася па дзяржзаказах. Напрыклад, за ўзровень мастацкага афармлення станцый метро. Здараліся проста анекдатычныя выпадкі. Адзін ідэолаг убачыў у яго афармленні яўрэйскую Мінеўру, другі —свастыку, трэці — голую жанчыну.

**— Урадавая ўзнагарода медалём Францыска Скарыны напаткала Вас позна. Чаму?**

— Дзесяць гадоў назад мне прапанавалі званне Заслужанага дзеяча культуры, але я адмовіўся прынцыпова, бо гэтыя званні былі ўзаконены Сталіным, пры дапамозе іх удавалася «прыручаць» дзеячаў культуры. А ў дадзеным выпадку за мяне парупіўся Фонд культуры. Медаль я атрымаў за гістарычны цыкл работ пра Беларусь і за прапаганду беларускага мастацтва.

**— Скажыце колькі слоў пра фільм аб Марачкіну, які выйшаў пад назвай «Мара».**

— Я вельмі ўдзячны Уладзіміру Арлову за стварэнне гэтага фільма. Я часта думаў, што хату, у якой я нарадзіўся, скора знясуць, усё навокал знішчыцца і не застанецца следу па роднай вёсцы. І раптам Арлоў тэлефануе: сцэнарый прыняты. І мы заспелі гэту хатку, гэту вёску і творы мае туды вывезлі, па снегу рассыпалі — укланілі ў фільм мае «Паданні і легенды». Не блага атрымалася.

**— Вы пішаце вершы?**

— Я вельмі люблю паэзію, а вершы люблю з дзяцінства. Зараз па восені збіраюся даць цэлую падборку ў ЛіМ, а ў перспектыве сабраць іх на кніжачку. Ёсць у мяне паасобныя цыклы. Выступаю ў друку і са сваімі разважаннямі на тэмы мастацтва і палітыкі. Апошнім часам надрукаваў у ЛіМе вялікі артыкул "Я выбіраю прэзідэнта».

**— Вашы адносіны да Зянона Пазьняка не змяніліся?**

— Пазьняк — гэта асобная гаворка. Я спадзяюся напісаць пра яго артыкул. У цэлым мае адносіны да Зянона Станіслававіча застаюцца ранейшымі. Хоць я лічу, што ён нарабіў шмат тактычных памылак у сваёй палітычнай дзейнасці. Стратэгічных памылак Пазьняк не робіць. Народны Фронт і яго акружэнне, як ніхто, адчуваюць сітуацыю на Беларусі і найбольш перспектыўны шлях яе развіцця. Пазьняк — духоўны лідэр нацыі. Абставіны вымусілі яго выступіць у ролі кандыдата ў прэзідэнты, хоць сам ён выступаў супраць прэзідэнцтва на Беларусі, бо народ яшчэ не саспеў, каб выбраць дастойнага кандыдата. Я ўпэўнены, што палітычную нішу для сп. Лукашэнкі як барацьбіта з карупцыяй, фактычна расчысціў Пазьняк і БНФ. Шкада, што БНФ, працуючы на імідж Пазьняка, мала працаваў на імідж іншых дзеячаў ценявога кабінета БНФ, напрыклад на Антончыка, на Голубева. Тады, магчыма, палітычная сітуацыя ў краіне склалася б па-іншаму.

**— Дзякую за гу[illegible]ку.**

**Гутарыла [illegible] КРЭНЬ.**

## МЕРКАВАННІ

рычнай памяці высыхаюць нацыянальныя крыніцы, паступова спыняецца ўвогуле функцыянаванне ўсяго нацыянальнага арганізму.

«Славянский собор» у кампаніі з апалагетамі бальшавіцкай ідэалогіі штучна стварылі страшыдла з паняцця «беларускі нацыяналізм». Апошні, на іх думку, культывуюць нацыянал-адраджэнцы. Каб супакоіць сваіх аднадумцаў, цяперашні экс-прэм'ер у ходзе прэзідэнцкага марафону запісаў у сваёй праграме: «Я не дапушчу ваяўнічага (? — В.С.) нацыяналізму і шавінізму». Відаць, прэтэндэнт на пасаду «бацькі нацыі» пад «ваяўнічымі нацыяналістамі» разумеў нацыянальна-дэмакратычныя сілы. А магчыма, нават, што рыхтаваў адпаведны прэзідэнцкі ўказ, падобны да былога сумнавядомага крымінальнага пакарання за так званую антысавецкую агітацыю і прапаганду. Вядома, з дапамогай сафістыкі і казуістыкі, вольнай інтэрпрэтацыі юрыдычных тэрмінаў і падтасоўкі фактаў можна лёгка, без асаблівых высілкаў, сфабрыкаваць «справу» на любога «ваяўнічага нацыяналіста».

Паспрабуем высветліць, ці пагражае беларусам «ваяўнічы нацыяналізм»? Скажам шчыра: ён не толькі пагражае, а ўжо існуе. Толькі не ў вобліку міфічных «нацдэмаў», а ў рэальным хаўрусе ўсіх ворагаў нашага нацыянальнага Адраджэння, якія дружна сталі пад чырвоныя і чарнасоценныя сцягі, яскрава паказаўшы не толькі ваяўнічы нацыяналізм, але і пячорны шавінізм. Гэта добра бачна, напрыклад, калі адкрыта выказваецца знявага да нацыянальнай сімволікі Рэспублікі Беларусь, у патрабаваннях рэанімацыі былой чырвонай імперыі і скасавання нацыянальнага суверэнітэту нашай Бацькаўшчыны, у дамаганнях увядзення другой дзяржаўнай мовы. У вялікадзяржаўным прарасійскім шавіністычным хоры асабліва вылучаюцца галасы самазванцаў — кіраўнікоў розных ветэранскіх арганізацый, якія ўжо яскрава бачаць Беларусь, прыпрэжаную да расійскай імперскай брычкі. Гэты хаўрус надзвычай небяспечны, бо ў ім сабе знайшлі прыстанішча духоўныя янычары, для якіх нацыянальная ідэя — дробная разменная манета. У гэтыя арганізацыі ўваходзяць нават некаторыя «заслужаныя» і «народныя» зорканосцы. Відаць, напластаванні колішняй «славы» перашкаджаюць ім выпрастацца, пазбавіцца ад савецкіх комплексаў і сказаць беларускаму люду сапраўды мудрае слова.

Трэба ўлічваць, што маўчанне — таксама палітыка. Асобныя ж «палітычныя нейтралы» сваім бяздзеяннем свядома і падсвядома іграюць на руку ворагам беларушчыны. Сёння ў палітычным віры апынуўся ўвесь беларускі народ, заблудзіўшыся ў папулісцкіх праграмных абяцанках. Пазбавіцца часовай эйфарыі ад дэкларатыўнасці народу можа дапамагчы толькі нацыянальна свядомая інтэлігенцыя. Яна абавязана бязлітасна выкрываць спробы зганьбіць рух нацыянальнага Адраджэння, які ўмагаецца толькі за тое, каб беларусы занялі годнае месца сярод усіх народаў свету. Інтэлігенцыя павінна выкрываць задумы тых, для каго «мэтай жыцця» з'яўляецца аб'яднанне з Расіяй.

Беларускі народ пакрысе пачынае разумець, што пагражаюць яму небяспекай не нацыянал-дэмакраты, што самы небяспечны вораг нашай Бацькаўшчыны — вялікадзяржаўны расійскі шавінізм, у якія б шаты ён ні ўбіраўся.

**Васіль СОКАЛ.**

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

М.П.КАСЦЮК

# БЕЛАРУСЫ: ЖЫЦЦЁ ВА ЎМОВАХ НОВАЙ ЭКАНАМІЧНАЙ ПАЛІТЫКІ

УРАДЫ Расійскай федэрацыі і Украінскай ССР нарэшце пагадзіліся. У выніку тэрыторыя савецкай Беларусі павялічылася яшчэ на 15727 кв. км, а насельніцтва — на 649 тыс. чалавек. Да БССР адышлі мясцовасці з адносна развітой прамысловасцю, а таксама важны сельскагаспадарчы раён.

Вяртанне БССР тэрыторый на ўсходзе значна ўзмацніла наш эканамічны патэнцыял. Павысілася вага рэспублікі ў эканоміцы СССР. Большымі сталі магчымасці культурнага развіцця беларускага этнасу. Быў зроблены важны этап у працэсе аб'яднання беларускай нацыі, але гэта было завершана толькі ў верасні 1939 г.

Галоўнай асаблівасцю грамадска-палітычнага жыцця Беларускай ССР у пачатку 20-х гадоў было тое, што ў рэспубліцы, як і ва ўсім СССР, усталявалася аднапартыйная сістэма. Гэта было адным з асноўных фактараў, якія прывялі да фарміравання адміністрацыйна-каманднай сістэмы, культу асобы, сталінскага дыктатарскага рэжыму.

Усталяванне аднапартыйнай сістэмы з'явілася не столькі вынікам унутранага развіцця грамадства, колькі мэтанакіраванай палітыкай і імкненнем кампартыі да адзінаўладдзя. З гэтаю мэтаю рабіўся націск на іншыя партыі і грамадска-палітычныя рухі. У сакавіку 1921 г. адбылася самаліквідацыя Бунда і частка яго членаў улілася ў КП(б)Б. Але найбольш уплывовай палітычнай сілай у БССР з'яўлялася Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р). У пачатку 1921 г. яна налічвала звыш 20 тысяч членаў і больш чым у 4 разы пераўзыходзіла колькасны склад кампартыі Беларусі. Яна мела сваю структуру, кантралявала дзейнасць адпаведнай маладзёжнай арганізацыі.

КП(б)Б прыняла жорсткія меры для ліквідацыі такога становішча. Згодна з рашэннем цэнтральнага бюро кампартыі Беларусі ў пачатку 1921 г. БПС-Р фактычна падверглася разгрому. 860 актыўных яе членаў былі арыштаваны. Над імі адбыўся шэраг судовых палітычных працэсаў. Гэта з'явілася апошнім крокам да ўсталявання ў БССР аднапартыйнай сістэмы.

Дадзеныя палітычныя змены ўскладнілі становішча дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), якія знаходзіліся ў эміграцыі. Да таго ж на іх пазіцыю ўплывалі і тыя зрухі ў гаспадарчым і нацыянальна-культурным будаўніцтве, што адбываліся ў БССР. Сваю ролю адыгралі і той факт, што ў ліпені 1923 г. сумесным дэкрэтам Цэнтральных Выканаўчых Камітэтаў СССР і БССР была аб'яўлена амністыя ўсім удзельнікам нацыянальных арганізацый і фарміраванняў, якія дзейнічалі ў першыя гады савецкай улады. Улічваючы ўсё гэта, у кастрычніку 1925 г. на нарадзе ў Берліне частка дзеячаў БНР аб'явіла аб роспуску сваіх палітычных цэнтраў і спыненні барацьбы з савецкай уладай. Яны прызналі, што БССР як палітычная рэальнасць стала месцам кансалідацыі беларускага народа, адраджэння яго культуры, а Менск з'яўляецца адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага аднаўлення Беларусі. Тыя дзеячы БНР (І.Лёсік, В.Ластоўскі, А.Цвікевіч і інш.), якія вярнуліся ў БССР, зрабілі нямала для развіцця беларускай культуры, але неўзабаве яны сталі ахвярамі сталінскага беззаконня.

Адносіны да новай эканамічнай палітыкі ў кампартыі Беларусі былі фактычна дваякія. З аднаго боку, яна вымушана была, падпарадкоўваючыся партыйнай дысцыпліне, праводзіць яе ў жыццё. А з другога — шмат хто з яе кіруючых работнікаў адмоўна адносіўся да НЭПа. Гэта знаходзіла адлюстраванне і ў партыйных рашэннях рэспубліканскага ўзроўню.

Асцярожна, але ўсё больш настойліва КП(б)Б умешвалася ў грамадска-палітычнае жыццё рэспублікі. Найбольш яркае выражэнне гэта атрымала ў канцы 20-х гадоў у сувязі з барацьбой з так званым правым ухілам. Погляды М.Бухарына, А.Рыкава, М.Томскага ў Беларусі падзялялі нарком земляробства Зм.Прышчэпаў, вядомыя беларускія дзеячы браты Г. і М.Гарэцкія, С.Ждановіч, І.Кіслякоў, Я.Лабаноўскі, А.Смоліч і інш. Па сутнасці іх падыходы былі альтэрнатывай у вырашэнні праблемы далейшага развіцця вёскі. Але разгром «правага ўхілу» яе ліквідаваў. На парадак дня быў пастаўлены толькі сталінскі падыход.

Характэрнай асаблівасцю гісторыі Беларусі 20-х гадоў з'явілася спроба нацыянальна-культурнага Адраджэння, якая вылілася ў палітыку беларусізацыі. Яна была вельмі неабходнай з'явай, бо ў выніку шматвяковай паланізацыі і русіфікацыі прэстыжнасць беларускай культуры значна знізілася нават сярод яе носьбітаў.

Аб пераходзе да ажыццяўлення палітыкі беларусізацыі было аб'яўлена ў ліпені 1924 г. II сесіяй ЦВК БССР, якая прыняла пастанову «Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі». Сутнасць палітыкі беларусізацыі заключалася ў прыярытэтным развіцці беларускай культуры, у вылучэнні беларусаў на партыйную, савецкую работу, на працу ў прафесійныя і грамадскія арганізацыі.

Галоўным звяном палітыкі беларусізацыі з'яўлялася аднаўленне ўжывання ў шырокіх народных масах, дзяржаўных і грамадскіх структурах роднай беларускай мовы. Пры гэтым ставілася задача, каб належная ўвага надавалася таксама іншым мовам, на якіх размаўляла насельніцтва Беларусі — у першую чаргу рускай, польскай, украінскай, яўрэйскай.

Ажыццяўленне палітыкі беларусізацыі было разгорнута ў шырокіх маштабах. У кампартыі Беларусі нават быў дэвіз: «Уся КП(б)Б павінна гаварыць на беларускай мове». Неаднаразова пытанні беларусізацыі закраналіся на вышэйшых партыйных форумах — пленумах і з'ездах. Фактычна беларусізацыя была ўзведзена на ўзровень дзяржаўнай палітыкі. Прэзідыум ЦВК БССР стварыў камісію па ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі. Яе ўзначаліў вядомы ў БССР дзяржаўны дзеяч А.Хацкевіч.

*(Працяг будзе)*

*Беларускае замежжа*

# «Czasopis»: ліпень — жнівень

ПАДПІСЧЫКІ беластоцкага «Часопіса» — як у Польшчы, так і ў Беларусі — атрымалі чарговы нумар штомесячніка. Гэтым разам ён, як і штогод, аказаўся падвойным — матэрыялы ліпеньскага і жнівеньскага нумароў сабраныя ў адзіны, большага памеру сшытак.

Як звычайна, нумар пачынае рубрыка «Мінуў месяц». На беларускай і польскай мовах у ёй змешчаны кароткія цытаты з выданняў Польшчы і Беларусі, прамоў грамадскіх і палітычных дзеячаў, пісьменнікаў і журналістаў абедзвюх краін, а таксама паведамленні з Беластока і яго рэгіёна, Варшавы, Гданьска, Менска, Гродна, Віцебска, з Літвы, Расіі, Злучаных Штатаў, Ватыкана, Ізраіля. Усе яны інфармуюць аб падзеях, якія адбыліся апошнім часам і прама ці ўскосна адбіліся на жыцці польскага і беларускага народаў.

Публікацыі, змешчаныя пад рубрыкай «З жыцця царквы», паведамляюць: адна — аб адраджэнні ў войску польскім інстытута праваслаўных вайсковых святароў. (Тут трэба нагадаць, што праваслаўе ў Польшчы вызнаюць пераважна беларусы і ўкраінцы, а ў войску дагэтуль існаваў толькі каталіцкі ардынарыят.)

Другая — «Цень знішчэння» — прысвечана праблеме захавання на Беласточчыне праваслаўных святыняў. Пажар, які нядаўна здарыўся ў царкве ў в. Пасынкі гміны Бельск-Падляскі, стаў 16 выпадкам загарання праваслаўнай святыні ва Усходняй Польшчы на працягу апошніх 20 гадоў. Прычыны таму былі розныя — і няшчасныя выпадкі, і праявы злой волі людзей. Аўтар публікацыі бачыць выйсце не ва ўзмацненні адказнасці вінаватых, а ў гарантаванні бяспекі помнікам рэлігіі і культуры. Справе веры датычаць і два іншыя артыкулы «Часопіса»: «Вайна за Супрасль» і «Царква ў падзеях Бельска». Першы з іх паведамляе аб спрэчках, што ўзніклі паміж духавенствам і вернікамі праваслаўнай і каталіцкай канфесій у выніку рашэння Рады Міністраў Польшчы перадаць Супрасльскі манастыр праваслаўнай царкве. Другі з'яўляецца працягам друкаванай у папярэдніх нумарах гістарычнай працы.

«Часопіс» і іншыя» — артыкул з гэткім загалоўкам паведамляе аб Трэцім агульнапольскім конкурсе мясцовага друку, на якім «Часопіс» — выданне беларуска-польскага сумежжа — заняў другое месца сярод 300 удзельнікаў. Гэта сведчыць аб яго папулярнасці не толькі ў Беларусі, але і на радзіме.

Адна з традыцыйных тэм выдання ёсць асвятленне стану зносін паміж палякамі і беларусамі — народамі, што складаюць пераважную большасць у рэгіёне распаўсюджвання часопіса. Таму гэтым разам у рубрыцы «Справы нацыянальныя» змешчаны аж тры артыкулы. Змест першага з іх — «Нацыянальная свядомасць польскіх беларусаў у люстэрку літаратуры» — цалкам перадае пададзеная асобна фраза: «Негатыўныя праблемы польскіх беларусаў здаўна і ў значнай ступені былі створаны і ствараюцца цяпер негатыўнымі з'явамі ў грамадска-палітычным жыцці Рэспублікі Беларусь». Праблемы нацыянальных меншасцей Польшчы асвятляе і другі артыкул — «Сведчанне бяспраўя?» Працэс уплыву палітыкі ўрада Беларусі на страту мясцовымі палякамі сваёй нацыянальнай свядомасці разглядваецца ў артыкуле «Паланізацыя і дэнацыяналізацыя». Рубрыку замыкае зварот да ўдзельнікаў семінара «Нацыянальныя меншасці і нацыяналізм», які 25 чэрвеня г. г. адбыўся ў Кракаве. «Мы, прадстаўнікі моладзі нацыянальных меншасцей, лічым, што нам не патрэбны ніякія спецыяльныя правы і прывілеі. Мы жадаем адно, каб выконваліся нашы грамадзянскія правы», — напісана ў ім.

Праблемы нацыянальнага самавызначэння разглядаюцца і ў матэрыяле «Хто нас так падзяліў?», перадрукаваным «Часопісам» з газеты «Жыццё Варшавы». Меркаванні варшаўскай журналісткі — яго аўтаркі — хай, на погляд іншых, не заўсёды слушныя — прадстаўляюць стаўленне да нацыянальнага жыцця Беласточчыны значнай часткі польскага грамадства.

Традыцыі Беласточчыны, як месца суіснавання двух нацыянальных культур, разглядаюцца ў артыкулах «Летнія святы і абрады на Беласточчыне» і «Таямніцы назваў».

Значная частка матэрыялаў падвойнага нумара паведамляе аб жыцці беларусаў Польшчы і замежжа: «Што думаюць пра «Басовішча»?» — аб фестывалі беларускай песні ў Гарадку, «Пачуццёва я Беларусі ніколі не здраджваў» — інтэрв'ю з празаікам і перакладчыкам беларускага паходжання Яўгенам Кабацам, «Заезд у бацькоўскі край» — уражанні жыхара Гданьска Міхаіла Каслюкевіча аб наведванні Меншчыны, «Жанчына з хвораю рукой» — апавяданне журналісткі і паэткі Міры Лукшы, «Беларускі студэнцкі рух у Польшчы» — агляд дзейнасці Беларускага аб'яднання студэнтаў.

Апошняя рубрыка «Часопіса» — «Хроніка мясцовасці» — знаёміць чытачоў з гарой Грабаркай — традыцыйным месцам паломніцтва праваслаўных жыхароў Беласточчыны.

**У.П.**

Мікалай КРЫЎКО

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПАПАДДЗЯ** *разм.* (жонка праваслаўнага святара) *Жонка Юрася сябравала з пападдзёю* (С.Александровіч), **МАТУШКА** *разм. Матушка Агрыпіна паставіла на стол страву і пачала яго [бацюшку] клікаць* (Чарот).

**ПАПАДЗЯНКА** *разм.* (дачка папа) *Што заробіць Эльза, шыючы сукенкі пападзянкам, тым толькі і жывілася з бацькамі* (Гарэцкі), **ПАПОЎНА** *разм.*

**ПАПАЛАМ** (на дзве роўныя часткі, палавіны) *З трэскам рвануліся дзверы, раскалоліся папалам, і адна палавіна іх упала* (Чорны), НАПАЛАМ *разм. Кандрат паклаў разламаную напалам бульбіну і прыліп тварам да шыбы* (Галавач), **НАПАПАЛАМ** *разм. А я чула ад Аўдолі, што папы дзесь раскалолі Ўсю царкву напапалам —Частка тут, а частка там* (Крапіва).

1. **ПАПАСЦІ** (*у што, у каго*; пра кулю, снарад, пра што-н. кінутае і пад.: трафіць стрэлам з пальнай зброі ў каго-н., што-н.; пра чалавека: кінуўшы, стрэліўшы і пад., нанесці пашкоджанне, забіць) *У яго ўсю сям'ю забілі. Бомба проста ў дом папала* (Асіпенка), **ТРАПІЦЬ** *Адна бомба трапіла ў лазню, запаліла страху* (Кулакоўскі), **ПАТРАПІЦЬ** *разм. Якраз у цэлю патрапіў, дзядзька Пракоп, — прабубніў чалавек у капюшоне* (Сіняўскі), **УЦЭЛІЦЬ** *На самай ускраіне паляны былі машыны медсанбата, туды ўцэліла некалькі бомбаў* (Сабаленка), **ПАЦЭЛІЦЬ** *У канцы вуліцы стаяў нейкі разбураны дом. Мусіць, сюды пацэліла бомба* (Арабей), **ЦЭЛІЦЬ** *разм. Цэліў — не цэліў, а ваўка ўзяў* (з народнага), **УЛУЧЫЦЬ** (цэлячы, папасці ў каго-, што-н.) *І пачаў Мядзведзь шпурляць з печы падушкі-дзяружкі, каб улучыць па званочку* (Брыль). *— Незакончанае трыванне:* **Пападаць, трапляць, патрапляць, цэліць і цаляць, улучаць.**

2. **ПАПАСЦІ** *разм.* (безасабовы дзеяслоў, каму-чаму; пра спагнанні, непрыемнасці, якія атрымаў або атрымае хто-н.) *—Эх ты, футбаліст. Перапэцкаўся ўвесь, як маленькі. Пападзе нам з табой ад маці* (Асіпенка), **ПЕРАПАСЦІ** *разм. Тата не бачыць, які мурзаты Юзік, а то перапала б* (Лось), **ДАСТАЦЦА** *разм. Дасталося Райскаму і Лабановічу: чаму яны не парвалі пратакол, калі на яго налятаў ураднік* (Колас). *Дасталося разам з іншымі і самому Чарнушку* (Мележ), ДАСТАЦЦА (або ПАПАСЦІ і пад.) НА АРЭХІ *разм. Дасталося мне на арэхі за цябе ад Дэмбарозіна* (Машара). *Прапусці ад нас няспраўны вагон,.. будзе ўсім на арэхі да апошняга змазчыка* (Лынькоў). *— Хапіла і мне на арэхі, — прызнаўся Федзя* (Ваданосаў), **УЛЯЦЕЦЬ** *разм. — Будзе мне за вас [хлопцаў], уляціць! — заенчыў салдат* (Рамановіч), **НАГАРЭЦЬ** *разм. — Не нагарыць за самавольную адлучку? — пацікавіўся Кастусь* (Якімовіч). — Незак.: **Пападаць, перападаць, даставацца, дастацца** (або **пападаць** і пад.) **на арэхі, улятаць, нагараць.**

1. ПАПАСЦІСЯ *на чым, з чым і без дапасавання; разм.* (быць злоўленым, выкрытым у якім-н. учынку, злачынстве) *— Я тут табе ліс-тоўкі перадам, — панізіла голас Алаіза.. — Ты зможаш раздаць рабочым?.. Толькі асцярожна, каб не папаўся* (Арабей), ЗАСЫПАЦЦА *на чым, з чым і без дап.; разм. З такімі поглядамі можна «засыпацца» каля першага паліцэйскага* (Шамякін), УЛІПНУЦЬ *разм. Я накіраваўся ў тваю кватэру... а там засада... вось і ўліп* (Гурскі). *— Незак.:* **Пападацца, засыпацца, уліпаць.**

2. ПАПАСЦІСЯ *у што і без дап.* (апынуцца ў непрыемным становішчы) *— Вось, думаю, папаўся: будуць свавольнічаць, і нічога з імі не зробіш* (Кавалёў), ТРАПІЦЬ у што *Хто-хто, а Максім трапіў бы ў гэту кашу* (Машара), ПАПАСЦІ *у што Ніжэй к сядлу казак прылёг, Махнуў стралою у вароты, Каб не папасці ў пераплёты* (Колас), УБЛЫТАЦЦА *у што і без дап.; разм. Я і сам не ведаю, як у гэтую кашу ўблытаўся, але цяпер павінен жа неяк і выблытацца* («Беларусь»). *Ублытаўся, як муха ў павуцінне* (з народнага), УЛІПНУЦЬ *у што, з чым і без дап.; разм. — Аднак і ўліплі мы, браткі, з гэтым хлебам... — сказаў нехта з нас* (Лынькоў), УКЛЯПАЦЦА *у што і без дап.; разм. [Кажамяка:] — От укляпаўся! І калі ўжо скончацца мае пакуты* (Гурскі), УЛОПАЦЦА у *што і без дап.; разм. Бывае, год ловяць у сталіцы і нічога, выкручваецца, а тут прыедзе і з першых жа дзён улопаецца* (Галавач). — *Незак.:* **Пападацца, трапляць, пападаць, ублытвацца, уліпаць, уклёпвацца, улопвацца.**

ПАПАЎДНІ (пасля паўдня) *Было папаўдні, свяціла сонца* (Чорны), СПАЎДНЯ *разм. На рыштаваннях будаўнік нястомны Кладзе муры і зранку, і спаўдня* (Пушча). *Ужо спаўдня і ўжо касцу Аж гоніць з голаду асцу* (Крапіва).

**ПАПАЦЁМКУ** (у цемры, у цемнаце) *Якая там была трава — добрая ці дрэнная? — папацёмку не разбярэш* (Якімовіч), ПАПОЦЕМКУ *Яны выйшлі ў бакоўку і там папоцемку закурылі* (Чорны), УПОЦЕМКУ *разм. Васіль зачыніў сенцы, запёр іх на закрутку, раздзеўся ўпоцемку і і ўлёгся спаць* (Гартны), УПОЦЕМКАХ *разм. Ён [Янук Сяліба] боль уласнай раны забываў, А ўпоцемках тут кожны куст чапляў* (Танк). ПОЦЕМКАМ *разм. Яна [Зося] злавіла каня і спешна запрагла, але ехаць — ехала павольна, мяркуючы быць можа поцемкам* (Гартны). *Поцемкам прыйшоў.. Уладзя* (Чорны).

**ПАПЕРАМЕННА** (чаргуючыся, змяняючы адзін аднаго) *Толькі тры-чатыры чалавекі з агульнага ліку [касцоў] папераменна мянцілі косы* (Гартны), **НАПЕРАМЕНКУ** *разм. Аркестры іграюць напераменку* (Гарэцкі), ПА ЧАРЗЕ *Аднаго разу чатыры чалавекі па чарзе пільнавалі выдру шэсць тыдняў і не маглі злавіць* (Маўр).

ПАПЛАВОК (частка вуды, якая ўтрымвае лёску з кручком у час лову на патрэбнай глыбіні) *І раптам паплавок гайдануўся. Мішка падхапіў вудзільна, насцярожыўся* (Кандрусевіч), ПЛАВОК *Сядзіць дзед Агей без шапкі на камені. Не мігаючы глядзіць на плавок* (Крапіва).

ПАПЛЕЧНІК (чый-н. аднадумец і таварыш па якой-н. дзейнасці, па барацьбе і пад.) *Дудар быў адным з бліжэйшых сяброў і паплечнікаў Чарота* (Звонак), САРАТНІК *Пачалося са спектакля «Машэка» і працягвалася далей: Крыловіч у галоўнай ролі.., Платонаў у ролі.. саратніка героя* (Сабалеўскі).

*Леанід БУРАК,*
*заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар*

## УДАКЛАДНІМ

# Знакі прыпынку ў складаназлучаных сказах

## д) Складаназлучаныя сказы з разнатыпнымі прэдыкатыўнымі часткамі

1. Разнатыпныя прэдыкатыўныя часткі аддзяляюцца звычайна тымі знакамі прыпынку, што і аднатыпныя часткі складаназлучанага сказа, калі яны непасрэдна звязаны адна з другой: *Зараз Тапурыя адпачне, потым ён будзе разбіраць вепра, і гэтай работы яму хопіць да самага вечара* (Э. Самуйлёнак). *І хістаецца асока, і шуміць высокі бор, а ў душы не замаўкае струн вясёлых перабор* (М.Багдановіч). *Ці то былі толькі здагадкі, ці то была праўда, але пачалі перадавацца з вуснаў у вусны ўсякія дакладнасці і падрабязнасці справы* (К.Чорны). *Тата з імі пайшоў — і дагэтуль няма, а тут холад тне кроў, сыпле снегам зіма* (Я.Купала). *Скакаць ён так мог дзён пяць ці мо дзесяць — адно толькі боты стапталіся ў лесе; ды нават і ў мяне там знасіліся лапці* (Максім Танк).

2. Калі разнатыпныя прэдыкатыўныя часткі складаназлучанага сказа не толькі непасрэдна звязаны адна з другой, але і аб'яднаны ў блізкія па сэнсу групы, то паміж гэтымі групамі ставіцца кропка з коскай: *Апала заслона мядзяная хмар, на захад плывуць іх клубы; а я пазіраю ў знямелы абшар, а ў сэрцы так многа журбы!* (Якуб Колас). *Тая хвоя, што пры полі, бач, стаіць як важны пан, разгарнуўшы на прыволлі свае лапы, бы капітан; а другая, небарака, пахілілася наніз, стан пагнуўся як кульбака і верх жудасна абвіс* (Якуб Колас). У выпадках, калі падобныя групы процістаўлены або параўноўваюцца адна з другой і выразна расчленены, паміж імі ставіцца коска з працяжнікам: *То не шум баравы патрасае светам, то не гром векавы грымнуў гэтым летам, — а легендай сусвет ганарыць належна нашых лётчыкаў цвет на ўвесь свет бязмежны* (Янка Купала). *Ужо лісты абляцелі адзін за адным, у дарогу збіраюцца гусі, — гэта значыць прайшлі вераснёвыя дні і кастрычнік наблізіцца мусіў* (П.Глебка).

## Чытаем казкі

Здіслаў СІЦЬКО

# ПАДЧАРКІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

*Як перачытаем усе «рускія» казкі, мы можам смела сцвярджаць, што паводле маляўнічасці і прыгажосці апавядання беларускія казкі не маюць сабе роўных.*
*С. САЎЧАНКА, украінскі літаратуразнавец*

Казкі, як і ўсе іншыя творы духоўнай і матэрыяльнай культуры нашага народа, перажылі некалькі перыядаў небыцця. Іх уваскрашалі філарэты, Ян Баршчэўскі, фальклярысты, якія жылі ў XIX стагоддзі, а таксама сучасныя даследчыкі. Але я не памятаю, каб у школе, у пачатковых класах, нам хоць калі-небудзь чыталі казкі, складзеныя на нашай мове. Пра вывучэнне іх у старэйшых класах не было і гаворкі: усім беларускім грэбавалі. Нашы казкі, цікавыя і чароўныя казкі нібы не былі годнымі людской увагі.

Ды ўсё ж яны ўяўляюцца мне адмысловымі літаратурнымі творамі, што складзены таленавітымі майстрамі слова, якіх называлі вычворамі, казачнікамі. Іх вобразы — жывыя, яркія, а героі —нібы не казачныя асобы ды істоты, а жывыя людзі з іх чалавечымі — адмоўнымі і станоўчымі — рысамі характару. Галоўны (а мы былі прывучаны, што гэта значыць станоўчы)герой чыніў такое, на што не рашыўся б і адмоўны. А вось нягоднік, штось краў пшаніцу — «залатое зерне, сярэбранае зерне», — годна стрымаў сваё слова, быў спагадным да чужой бяды, гасцінным.

Але ў нашых казках, як і ў шмат якіх беларускіх фальклорных творах, ёсць дзіўныя радкі — пра незвычайныя падзеі і з'явы. Ці адбываліся яны, ці ўзніклі выпадкова, з прыхамаці баечніка, які дазволіў сабе, скажам так, фантастычнае адступленне?

Фальклярысты не заўважаюць гэтыя дзіўныя радкі, і толькі некаторыя даследнікі называюць іх рэшткамі міфаў. Мне ўяўляецца, што ў шмат якіх нашых казках побач з вядомым нам з жыццёвага вопыту светам існуе такі ж рэальны, хоць і невядомы нам, свет і такія ж падзеі. Рэальныя людзі і знаёмыя нам жыццёвыя сітуацыі, падзеі, з'явы... Вось толькі абставіны прыдуманыя, незвычайныя — нешта падобнае ў мастацкай літаратуры называюць сюррэалізмам. Але ў жыцці мы звычайна адмахваемся — ат, байкі!

А калі паспрабаваць не гаварыць: такога, што дзеецца ў нашых казках, ніколі не было. Лепш прыгледзімся, хто з казачных герояў, якія дзіўныя іх прыгоды, незвычайныя з імі здарэнні дапамогуць нам даведацца пра нашу даўніну, адшукаць, раскапаць нашу Трою? Дык пойдзем жа казачнай сцежкай у мінуўшчыну, а за павадыра возьмем самую звычайную і адначасова найбольш дзіўную — паводле некаторых казак і абрадаў — істоту...

Але перш казка, да таго ж ці не самая цікавая казка з «серыі» пра коз, а магчыма, нават з усіх казак пра жывёл.

### «КАЗА ДАРОТА»

*Казкі пра жывёл шмат якія даследнікі лічаць перламі беларускага казачнага эпасу.*
*К.КАБАШНІКАЎ.*

Казку «Каза Дарота» апавядаюць на Беларусі паўсюдна. А запісаў яе ад В.Корбіна ў вёсцы Высокае Аршанскага павета на пачатку нашага стагоддзя Міцкевіч-Далецкі. У кнізе «Беларускія народныя казкі» /Мн.,1980/ надрукаваны чатыры народныя творы, запісаныя там ад чатырох казачнікаў, то, відаць, можна сказаць, што ў вёсцы Высокае захоўваліся і пеставаліся пэўныя традыцыі. Не дзіва, што ў Корбінавым варыянце казкі пра казу Дароту захаваліся незвычайныя часткі сюжэта.

«...Пайшоў дзед у лес, як стукне ў бярэзіну — выскаквае каза белая...» З іншых дрэваў «выскаквалі» козы іншай масці, а прыдбаўшы чатырох, дзед загадаў дочкам па чарзе гнаць іх пасвіць. Кожны дзень увечары дзед пытаў у коз, ці добра іх напасцілі. Яны ж кожны раз скардзіліся, што нічога не елі і не пілі. Нестаранным пастухам дзед не дараваў. У іншых казках з падобным сюжэтам пастухоў проста выганялі, а ў казцы «Каза Дарота»: «Дзед узяў забіў дачку, пад печ падкінуў, ступай закаціў, скаварадой завесіў, саломкай падпаліў...» Такі ж лёс напаткаў усіх трох дзедавых дачок і жонку. Ды калі ўрэшце ён сам пагнаў коз на пашу і добра іх напасвіў, то козы ўсё ж скардзіліся, што галодныя. Дзед раззлаваўся, прыйшоў з нажом у хлеў ды «злавіў адну казу і стаў лупіць. Лупіў, лупіў, нож ступіў...Пайшоў у хату вастрыць нож, а каза адарвалася і пабегла ў лес».

Шмат незразумелага, незвычайнага, каб не сказаць абсурднага, у гэтай казцы. Ды найбольш дзіўным уяўляецца спосаб пахавання забітых — «пад печ падкінуў». Чаму менавіта такое жорсткае пакаранне за, здавалася б, невялікую віну і чаму такое незвычайнае пахаванне?

*(Працяг будзе)*

*Скарбы народныя*

## *А ў нашым Беражне кажуць...*

***Нідзе больш не сустракаў гэтых слоў, акрамя маёй роднай вёскі Беражна на Міршчыне, а яны здаюцца мне надзвычай выразнымі, таму прапаную іх чытачам «Нашага слова».***

Абрабіла — дочанька, палянь, — ты сукенку *абрабіла* (запэцкала).

Біканы — уся вуліца ў *біканах* і нікому няма клопату падсыпаць чвыру.

Блэндацца — не пасядзіць над кнігаю, а *блэндаецца* і *блэндаецца* па вуліцы.

Вобмегам — ведай, калі каму зрабіў дрэнна, табе гэта выйдзе *вобмегам*.

Вогарадкі — калі будзеш ехаць на буракі, то здымі драбіны і пастаў *вогарадкі*.

Воўглае — *воўглае* ў яго здароўе... (слабое).

Даў групака — так слізка, што ля самага парога даў *групака*.

Жмырыць — нязносная свякроўка: без дай прычыны *жмырыць* і *жмырыць* (бурчыць і бурчыць).

Завошавела — якое з яе сена, калі трава *завошавела*.

Катунок — дачушка, падай *катунок*, цаган у печ закаціць ( паставіць).

Курч — адкуль тыя яйкі, калі *курч* убіўся ў мае куры.

Лэбскі — няхай не кажа, што галодны! Я яму ў торбу палажыла лусту хлеба і *лэбскі* кусок сала.

Логмін —*логмін* ты, а не гаспадар, — кажа жонка мужыку (гультай).

Марськані — не хоча бегчы, дык ты *марськані* пугаю, пабяжыць...

Мльон — папраў *мльон*, каб сячкарня не ківалася.

Палянь —*палянь*, хто там ідзе.

Пераход — слабенькі ён. Кожную весну адхварэе *пераход* (эпідэмію грыпу).

Пролупка — зрабі ўсё сёння, бо заўтра будзе новая *пролупка*.

Паджугоўваць — ён такі злыдзень, — умее *паджугоўваць* меншых, каб пасварыліся.

Піндзіш — чаго ты ўсю раніцу *піндзіш* і *піндзіш*? — пытаецца маці у дзіцяці (плача і плача).

Прыгняздзіцца — палянь, як удала хата (куст) ля берага *прыгняздзілася*.

Рымсціць — яму сёння нешта *рымсціць*...

Стаюх — вырас здаровы, як *стаюх*, а да працы няма ахвоты.

Шэншало — *шэншало* ты стары, а на маладых заглядаешся! — кажа жонка мужу.

Цыкыш — *цыкыш*, каб на вас арол, — гнала цётка з градаў куранят.

**Яўген КРАМКО.**

**в. Беражна**

**Карэліцкага раёна.**

***ЧЫТАЛІ?***

***Не толькі Мікола Ермаловіч урабляе цалік нашае гісторыі. З публікацыі ў «Полацаку» мы ўжо ведалі, што яшчэ адзін наш даследнік абраў сабе ляда. І вось Менскі Выдавецкі цэнтр «Бацькаўшчына» сумесна з МП «Бесядзь» выдаў нарысы Паўлы Урбана «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвіноў» асобнай кніжкай.***

***Якое ж то цікавае ды надзённае даследаванне! Кажуць жа, што Мікола Ермаловіч стварыў міфічную гісторыю нашага народа — ў дзвюх кнігах «Старажытнай Беларусі». Што ж будуць гаварыць пра гэтую кнігу, аўтар якой сягнуў карэння і паспрабаваў даведацца, хто ж яны былі, заснавальнікі вялікай і магутнай дзяржавы, якую назвалі Вялікім Княствам Літоўскім.***

***У кнізе Паўлы Урбана ўражваюць спасылкі. Яны настройваюць на паважнае ўспрыняцце яго даследавання. Шаноўны аўтар вывучыў шмат літаратуры, пра якую ніколі не згадвалі на Беларусі: тут усё даследавалася «ў святле неабвержных фактаў». Паўла Урбан скарыстаў з неацэннай навуковай вартасці лацінамоўных крыніц: аналаў, хронік, грамат, трактатаў, дыярыушаў, а таксама актаў Віленскай каталіцкай епархіі ды скандынаўскіх сагаў.***

***Пра што ж даведаўся даследнік?***

# Пра ліцвінаў і белых ваўкоў Паўлы Урбана —

## Найперш пра мову

Так, спачатку пра мову. Вядома ж, нашаму выданню, яго чытачам гэтая тэма бліжэй. Ды ўсё ж найперш таму, што, як сказаў Якуб Грым, старэйшы са славутых братоў-казачнікаў: «Ёсць пра народы больш жывыя сведчанні, чым косці, зброя і магілы, ёсць — іх мова».

Яшчэ зусім нядаўна на Беларусі даводзілася даказваць, што наш народ мае старажытную, дасканала распрацаваную мову, якая была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім. Некаторыя мовазнаўцы гавораць пра яе як пра старабеларускую. Але мова, на якой пісалі дагаворы з Рыгай, Гоцкім берагам, амаль ідэнтычная сучаснай. Гэта пацвярджаецца сведчаннем самых аб'ектыўных сведак — слоў.

На словы звярнуў увагу і Паўла Урбан. Верагодна, беларусізмы найперш прывабілі — падаліся яму перлінамі на прыгожым, але халодным, чужым шоўку лаціны старых дакументаў.

Чатыры з 17 загалоўкаў раздзелаў маюць словы мова і слова. Але і ці не ў палавіне іншых — імёны, тапонімы, гідронімы, назовы плямёнаў гавораць праўду пра ліцвінаў.

Якія ж словы бярэ Паўла Урбан за сведкі? Перш даследнік звяртае нашу ўвагу на знойдзеныя ім у лацінамоўных тэкстах беларускія тэрміны. Прыкладам, калі князь Вітаўт пасля спрэчкі з братам Ягайлам уцёк, ужо другі раз, у Прусію да крыжакоў, то там мусіў абгрунтаваць сваю просьбу «палітычнага прытулку». Дык вось, у нямецкім тэксце той «тлумачальнай запіскі» знайшліся «баяры», «ваявода», «цямніцы». Шмат беларусізмаў і ў лацінамоўных Вітаўтавых граматах, як, зрэшты, і ў дакументах іншых ліцвінаў «высокага» і «нізкага» станаў. Паўла Урбан згадвае пра пячаткі Вітаўтавага брата Жыгімонта ды іх бацькі Кейстута, а таксама вялікага князя Альгерда — усе з надпісамі на славянскай мове: відаць, гэта была іх родная мова. Падставу сцвярджаць, што Вітаўт, вялікі князь ВКЛ, быў беларускамоўным, даюць і «Падарожныя запіскі» французскага рыцара і дыпламата Гільбэра дэ Лянуа, які наведаў ВКЛ у 1414 і ў 1421 гадах. Ды, зрэшты, пра тое, кім быў і пачуваў сябе Вітаўт, некаранаваны кароль ВКЛ, сведчаць ягоныя дзяржаўныя справы на карысць славянскага насельніцтва ВКЛ. (Пра паўсядзённую мову ягонага стрыечнага брата Ягайлы нат і гаварыць не трэба. Вядома, калі Ягайла стаў польскім каралём, то ў Кракаўскім каралеўскім замку Вавелі «запанавала рушчызна», г. зн. беларуская мова.) Дакументы, якія адшукаў Паўла Урбан, сцвярджаюць, што Вітаўт, вялікі князь ВКЛ, карыстаўся беларускай мовай.

У старых актах ВКЛ, «пісаных на лацінскай і нямецкай мовах», ужываліся тэрміны: намеснік, гараднічы, цівуны, дзяржаўцы, дзецкія, старосты, серабшчына, палюддзе, падводы, устаў, устаўное (акрэсленай вагі) лукно (падатак мёдам, які плацілі борнікі), устаўная бочка, бортны лес, прысёлкі, саха, сябрына, сябрычы, лукно шасціпяднае, лукно пяціпяднае, устаў мёду, сябрылы, ушаткі, чатыры кулі ліпцу (ліпавага мёду), два бязмены, тры бязмены мёду, два дзяклы пшаніцы...

Але тэрміны маглі быць пазычанымі ў славянаў (што, безумоўна, пацвярджала б вяршэнства крывіцкай культуры і высокі ўзровень развіцця іх грамадства). І магчымасцю вытлумачыць беларусізмы літоўскіх князёў пазычаннем іх лоўка пакарыстаўся Ул. Пашута, які так напісаў: «Заимствование русских (! — рэд.) терминов... не должно нас удивлять; это готовая юридическая форма, в которую удобно аблекались сложившиеся в Литве общественные отношения».

А таму даследнік падае іншыя беларускія «звычайныя» словы: сенажаці, чэлядзь, грачыха, конюх, ялавіца, бочка, Сьвяты лес, пруд, які называўся «ніжнім Міхалам», пяць копаў пшаніцы, пуня, дварэц, сасонкі, пашня, гаі, бары, яз, што сустракаюцца ў згаданых дакументах. Няўжо іх таксама трэба было пазычаць?

Падарожнікі, святары, месіянеры, якія трапплялі ў гэтую краіну, каб хрысціць ліцвінаў, пісалі «пра Літву як пра славянскую краіну, а мову ліцвінаў залічалі да славянскіх моваў». Аўтар называе шмат такіх адукаваных людзей: італійскі гуманіст Энэй Сільвій Пікаляміні (ад 1458 да 1464 г. папа Пій II), Гартман Шэдэль, аўтар «Сусветнай хронікі», Ян Коклес, Ян Багемскі.

І даследнік робіць выснову: з усіх гэтых прыкладаў зразумела, якой мовай спрадвеку карысталіся ліцвіны і на якой мове маглі яны гутарыць у XV стагоддзі.

## Пра імёны

Паўла Урбан не абмежаваўся словамі-тэрмінамі. Вялікі раздзел ён прысвяціў разгляду імёнаў старажытных ліцвінаў. Даследнік не падзяляе меркавання Івана Ласкова (на вялікі жаль, ужо нябожчыка) пра угра-фінскае паходжанне Літвы і імёнаў яе князёў. «На жаль, — піша Паўла Урбан, — ня ўсе даследнікі маюць доступ да старых заходнеэўрапейскіх хронікаў... Адама Брэмэнскага, Тытмара Марзэбургскага, Гяльмольда з Бузава,.. Козьмы Пражскага».

Матэрыялы гэтага раздзела выразна абвяргаюць «высновы» нашых, і не толькі нашых, мовазнаўцаў і гісторыкаў пра «балцкае» паходжанне імёнаў князёў ВКЛ, а таксама шматлікіх беларускіх магнацкіх і шляхецкіх родаў.

Звычайна, дзеля доказу пэўнай гіпотэзы даследнік будуюць складаныя этымалагічныя канструкцыі, якія, усё ж, не заўсёды дапамагаюць знайсці праўду. Але шмат хто выкарыстоўвае псеўдавучоны «аналіз» і нат простую фальсіфікацыю. Згадаем тут славутага лінгвіста Брукнера. Свае высновы той рабіў, адвольна рассякаючы жывыя імёны на патрэбныя яму часткі. Прыкладам, імя Вітаўт ён падзяляў на Ві- (што ніяк не тлумачыць) і на - таўт. Апошняя частка, паводле яго меркавання, азначала народ на яцвяжскай мове. Ды яшчэ прасцей зрабіў Ул. Пашута, аўтар кнігі пра станаўленне Літоўскай дзяржавы (так ён назваў ВКЛ). Ён «толькі» замяніў адно слова ў Гедымінавым пасланні: замест русінскай (г. зн. беларускай) мовы напісаў літоўскай.

Паўла Урбан выкарыстаў іншую методыку. Ён найперш вызначыў «геаграфію» распаўсюджання імёнаў, што яго зацікавілі. Прыкладам, такія ж імёны, якімі былі названы Гедымінавы сыны — Альгерд і Любарт, — мелі асобы германскага, англа-саксонскага паходжання. Даследнік падае звесткі прускага храніста пра гібель у 1391 годзе саксонскага герцага Альгерда з Гогенштайна (цяпер гэта Ніжняя Саксонія, калісь, калі не славянская, то суседняя з славянамі зямля), а таксама згадкі храніста з Усходняй Фрызіі пра Альгерда (Альгарда), англійскага караля VIII стагоддзя, ды пра шмаленбургскага нобіля Любарта. Гісторыі вядомы і Любарт, крыжацкі магістр з нідэрландскага горада Утрэхта. Даследнік называе таксама германскія паралелі да імя гэтага вялікага князя ВКЛ: Адальгард, Альбэрт, Вілібэрт, Дальбэрт і чэшскае імя Ольдржых.

Пададзены ў кнізе і некаторыя крыніцы дзеля высвятлення паходжання імя Вітаўт. Аўтар цытуе «юрыдычныя акты караля Чэхіі Пшэмысла Атакара I і ягонага сына маркграфа Маравіі Уладыслава» з імёнамі тагачасных чэшска-мараўскіх вяльможаў: Вітка сын Віткі, Вітаслаў, Зазема і ягоны брат Вітка, Генрык сын Вікты і Вікта, малодшы брат гэтага Генрыха. А, прыкладам, германскімі адпаведнікамі маглі быць імёны Віта, Вітас (Вітус).

Да імёнаў літоўскіх князёў Вігунт, Жыгімонт даследнік знайшоў германскія паралелі: Вігунд, Друтмунд, Лютмунд, Сігімунт (Сігізмунд). Таксама імёнам Ягайла, Свідрыгайла, Свіргайла ёсць германскія адпаведнікі: Анула, Вазіла, Віціла, Равіла, Тасіла, Таціла, Турдзімула, Хадала. Згадвае ён і імя балгарскага народнага героя Івайлы.

Не можа не зацікавіць тлумачэнне паходжання імя князя Гольшы, які лічыцца заснавальнікам Гальшанаў і роду славутых Гальшанскіх князёў, з якіх паходзіла жонка пратапласты роду Касцюшкаў. Паўла Урбан называе вядомага чэшскага магната Гальшу, сына Ольдржыха Уладыслава.

## Літва

Раздзел «Пра паходжанне найменія «Літва» адзін з самых вялікіх. Да яго аўтар прыходзіць з даказанымі ўжо фактамі, што ліцвіны здаўна карысталіся славянскай мовай і што іх уласныя імёны супадалі з імёнамі іншых, пераважна славянскіх ды германскіх народаў. Але хто з іх даў назву літва?

Перш Паўла Урбан згадвае рутэнаў, якія жылі на паўднёвым узбярэжжы Балтыйскага мора ды на востраве Руген і называліся руянамі. «Была там і краіна «Рутэнія». Пра асноўны сродак існавання руянаў можна меркаваць з паведамлення Паўлы Урбана пра адну вялікую бітву паміж нямецкім і славянскім войскам, якая адбылася 16 кастрычніка 955 года. У той бітве на баку нямецкага войска змагаліся славяне «руяны-русы», якіх, відаць, падкупілі. (Пра гэтых руянаў-русаў ёсць згадкі ў некаторых храністаў, што яны не грэбавалі рабаўніцтвам і нападалі не толькі на суседзяў. Можна нат уявіць, што на востраў Руген збягаліся выгнаныя германцамі славяне. Яны знаходзілі сабе тут надзейны прытулак. Так шмат вякоў пазней пакрыўджаныя станунць уцякаць за Дняпроўскія парогі і створаць там Запарожскую сеч і сапраўднае воінскае саслоўе, — казакі, якія, разышоўшыся па еўрапейскіх і азіяцкіх прасторах, стварылі амаль этнічныя групоўкі. Сёння вядомы кубанскія, данскія, церскія, уральскія, даурскія казакі.)

Але былі яшчэ іншыя славянскія плямёны — люцічы і вільцы, якія жылі ў міжрэччы Лабы і Одры. Паўла Урбан піша, што нямецкі храніст Адам Брэменскі атаясамляў гэтыя плямёны, і таму ёсць падставы называць іх вільцамі-люцічамі. А, прыкладам, Цвярскі і Ніканаўскі летапісы не раздзялялі люцічаў і літву. Польскі ж храніст Ян Длугаш ужываў і слова лютва. Гэтак жа называлі літву ў Рымскай папскай курыі, хаця папа Інакенцій IV называў Мендоўга, князя Навагарадскага, каралём Лютвы, а таксама і каралём Літвы. Такую нібы блытаніну можна зразумець: літва пайшла з люцічаў, а таму — лютва.

Паўла Урбан аналізуе шмат крыніц і выразна схіляецца, як мне падалося, да гіпотэзы паходжання літвы ад вільцаў-люцічаў, згадваючы, прыкладам, сведчанне сагі пра Тыдрэка Бэрнскага: колісь частка вільцаў-люцічаў перасялілася з захаду на ўсход. Такія звесткі пацвярджаюцца беларускімі «воўчымі» тапонімамі: Воўчын, Воўкаўшчына, Воўчкі, Воўкавічы, Люці, Люцічы. Варта дадаць таксама, што аўтар гэтых радкоў налічыў на тэрыторыі «гістарычнай літвы» (Навагарадчына) сама меней 15 тапонімаў, аналагічныя якім меліся на той, славянскай колісь, тэрыторыі ў міжрэччы Лабы і Одры. Адзін з іх — Жалезніца (у Баранавіцкім раёне), які згадваецца і Паўлам Урбанам як маёнтак Яна Кязгайлы.

## Што мне прымроілася

Мне прымроіліся «белыя ваўкі». Магчыма, яны сапраўды існавалі. Прынамсі, Паўла Урбан згадвае іх у сваёй кнізе двойчы. Адзін раз даследнік падае (на 80-й старонцы) звесткі Адама Брэменскага пра народ Alani vel Albani, qui lingua eorum Wilzi,.. які жыў «на ўсход ад Балтыйскага мора, там, дзе была Русь».

Шкада, што Паўла Урбан не развіў далей сваё: «У лацінскай мове рака Лаба (Эльба) называлася Альбай,.. што значыла рака Белая... У старых дацкіх хроні-

*ЧЫТАЛІ?*

# тры грошыкі

ках... Альбіяй называлася таксама краіна, што ляжала на поўнач ад ракі Лабы... Другая назва Адама Брэменскага для тых усходніх вільцаў — «албані» быццам падказвае меркаванне, што яны маглі перасяліцца на ўсход з краіны Альбіі». Я ж уявіў сабе, што другая назва —гэта частка цэлага: Albani Wilzi — белыя ваўкі.

Іншы раз гэтае спалучэнне слоў з'яўляецца (на 44-й старонцы), калі Паўла Урбан згадвае пагадненне 1398 года вялікага князя Вітаўта з Прускім і Лівонскім ордэнамі: «на поўнач ад паселішча Вайсвільцаў (Белавільцы?)», якое знаходзілася дзесьці ў вярхоўі ракі Нявяжы, верагодна там, дзе стаіць горад Вілкамір, перайменаваны летувісамі ў Укмерге. І я зноў убачыў у тых вайсвільцах белых ваўкоў.

А ўсё гэта прымроілася мне таму, што не йдуць мне з галавы Герадотавыя неўры, якіх шмат хто з сур'ёзных вучоных лічыць славянамі. А кожны з неўраў, як распавядалі Герадоту, штогод на некалькі дзён станавіўся ваўком. (Такіх людзей паўсюдна ў нас называлі ваўкалакамі.)

Мяркую, што Паўла Урбан зацікавіцца і адной асаблівасцю хецкага права: воіны, якія не мелі маёмасці, называліся ваўкамі.

## Пажаданні

Кніга Паўлы Урбана не мае заключэння. І мне ўяўляецца, што такім чынам яе аўтар запавядае працяг. У новай кнізе, мяркую, Паўла Урбан больш крытычна паставіцца да падбору, разгляду ды ацэнкі цытат з дакументаў, перакладзеных на польскую мову ці выданых палякамі. Гэта асабліва датычыць архіўных актаў Віленскай каталіцкай епархіі — «Codex diplomaticus Ecclesiae Cathedralis necnon Dioeceseos Vilnensis», беларускамоўныя дакументы якога пры выданні палякамі ў 1948 годзе былі перакладзены на польскую мову, як можна здагадацца з заўвагі пра Вітаўтаву грамату-наказ, напісаную на старабеларускай мове. А таму здзіўляе заўвага Паўлы Урбана пра «польскі моўны ўплыў» у завяшчальнай грамаце 1479 года Станіслава Марціновіча з Мерачы, што па-над Нёманам. Адкуль мог той Марціновіч ведаць польскую мову, калі толькі ў наступным стагоддзі Мікалай Рэй пачне дакараць (палякі не гусі і сваю мову маюць!) сваіх суайчыннікаў, якія на кірмашы гаварылі панямецку, а ў касцёле маліліся пачэшску, чаго не забараніў і новы кароль-ліцвін. Відаць, таму мелі падставу чэшскія паслы, якія прывезлі ў 1420 годзе прапанову Ягайлу стаць каралём Чэхіі, характарызаваць нашага земляка «як «прыроджанага прыхільніка» чэшскай мовы й абаронцу славянскіх моваў увогуле». (Ягайлава стаўленне да славяншчыны асабліва заўважалася ў параўнанні з некаторымі польскімі князямі. Прыкладам, Кандрат (Конрад) Мазавецкі ні слова не ведаў па-польску, а ўвесь яго двор гаварыў па-нямецку.)

Такое ж уражанне застаецца і ад згадвання дароўна-завяшчальнай граматы ад 30 траўня 1491 года састарэлага Радзівіла Ядалгавіча (верагодна, цалкам беларускамоўнай), у якой запісана і просьба ахвяравальніка на польскай мове. (Паўла Урбан тлумачыць верагоднасць польскамоўнай фразы ў гэтай грамаце: яе мог напісаць парафіяльны ксёндз польскага паходжання.)

Такія, здавалася б, дробязі толькі ўяўляюцца бяскрыўднымі. Па-першае, ствараецца ўражанне, што ліцвіны ведалі і карысталіся польскай мовай, а па-другое, такія вось «дапіскі» папольску ўстаўляюцца спецыяльна, каб стварыць уражанне даўняй польскай прысутнасці на землях ВКЛ, чаго ніколі не было. Несумленных «навукоўцаў» хапае. Яны не толькі ўстаўляюць адвольна сказы, але і, як той Ул. Пашута, замяняюць словы ў дакументах.

Няма падстаў і гаварыць пра «польскіх святароў», якія нібы ведалі польскую мову. Яны карысталіся лацінай. Згадвае ж даследнік пра першы славянскі манастыр, заснаваны Ягайлам, манахаў для якога мусілі прывезці з Прагі, бо польскіх, відаць, не было. А менавіта чэшскія гусіты «абаранялі таксама права свайго народа ў набажэнствах карыстацца роднай мовай».

Спадзяюся, што ў новым выданні Паўла Урбан напіша пра «kenezat Lytwa» і пра «terra Litwa», а не будзе спасылацца на цытаваную Міколам Ермаловічам згадку маскоўскага аматара гісторыі. Шкада, што шаноўнаму аўтару гэта падалося неістотным і ён сказаў пра Літву дзесь за Дунаем мімаходзь. А, між іншым, і цяпер у Босніі існуе паселішча Літва (як і ў нас; толькі на Беларусі пяць вёсак з назвай Літва).

## «Тры грошыкі»

Аўтару гэтых радкоў захацелася і свае «тры грошыкі» прыткнуць. А таму толькі, што ён прачытаў у Паўлы Урбана пра Міхала Тышкевіча, «які ганарыўся сваёй «Харобрай Літвой» (дзесь пасля 1555 года). І ўспомніў ён, што яшчэ да таго хтосьці ўжо падобна пахваляўся: «Выедем, брате, в чистое поле и посмотрим своих полков, сколько, брате, с нами храбрые Литвы. А храбрые Литвы с нами 70000 окованые рати...» А так сказаў, калі верыць аўтару «Задоншчыны», полацкі князь Андрэй Альгердавіч свайму брату Дзмітрыю Альгердавічу напярэдадні Кулікоўскай бітвы. А наогул у яго (аўтара гэтых радкоў) склалася ўяўленне пра Літву як пра саслоўны, а не этнічны хаўрус. Літва, верагодна, прафесійныя ваяры. Менавіта такі іх статус вынікае з першай згадкі пра «літву Міндоўга, Ізяслава Навагарадскага», якую ў 1237 (?) годзе паслалі ваяваць з палякамі. З падобнай жа мэтай выкарыстоўвалі яе, як вынікае з грамат ды з адпісак цюменскага, томскага, а таксама іншых сібірскіх ваяводаў, і пры заваёве Сібіры: «послать с Тюмени на колмаков ратных людей, литву и черкас, и конных казаков...» (1607 год); «а с Тюмени послали мы за Азимом... атамана Дружину Юрьевича, а с ним литву, и конных казаков, и стрельцов, и пеших казаков» (1607 год); «на тех колмыцких людей посылали тюменских литву и казаков и стрельцов конных и пеших с вогненным боем» (1616 год). Але ўжо ў 1636 годзе скардзіўся цюменскі ваявода, што «служилых людей литвы и казаков конных мало, только 100 человек». Верагодна таму, што ў 1621 годзе «учинилась измена от литовских и немецких людей: хотели русских служилых и всяких людей посечь и в поле убежати на Яик реку». І каб чытачы не тлумілі сабе галавы, хто ж яны, сібірская літва, працытую радкі: «да с литвою с Давытковым Микифором да с Микиткою Оксёновым».

**Здзіслаў СІЦЬКО.**



*СПАДЧЫНА*



Нясвіж з яго старой архітэктурай — фарным касцёлам, гарадской ратушай, палацам Радзівілаў і палацавым паркам — каштоўны помнік мінуўшчыны беларускага народа. Менавіта тут у 1562 годзе Сымон Будны выдаў свой «Катэхізіс», менавіта ў гэтым горадзе жылі і вучыліся Уладыслаў Сыракомля, Якуб Колас, Кузьма Чорны.

У гэтым годзе скончана рэканструкцыя палаца Радзівілаў і парка пры ім, якія паўсталі перад наведвальнікамі, вярнуўшы колішнюю прыгажосць.

**Р. КАБЯК,**
**Белінфарм.**

*ЧЫТАЛІ?*

# *Так сказаў Заратустра*

***Кніга, надрукаваная нядаўна выдавецтвам «Мастацкая літаратура» — «Так сказаў Заратустра» — мае ўсе шанцы застацца незаўважанай. Гэтаму спрыяюць яе невялікі фармат, сціплае афармленне, адсутнасць хоць нейкіх каментарыяў да гэтага філасофскага твора і яго мізэрны наклад, вызначаны напачатку ў 3900 паасобнікаў і зменшаны да 2200. Але ж ёсць прычыны, якія будуць спрыяць папулярнасці кнігі: імя аўтара — Фрыдрых Ніцшэ — і перакладчыка — Васіль Сёмуха, ды, самае галоўнае, сусветная вядомасць, якую гэты твор набыў за 110 гадоў свайго існавання.***

***Што ўяўляе сабой «Заратустра»?***

«Да праекта новай кнігі.

Першая кніга. У стылі першай часткі Дзявятай сімфоніі. *Chaos sive natura*: «Аб разлютаванні прыроды». Праметэй прыкаваны да гор Каўказа. Кніга, поўная суровай моцы.

Другая кніга: у духу Мефістофеля, жвавая, рэзкая, скептычная. «Аб далучэнні досвету». Зведаць — значыць памыліцца — гэта становіцца арганічным і арганізуючым пачаткам.

Трэцяя кніга: самы інтымны, найбольш скіраваны ўвысь з усіх твораў, калі-небудзь напісаных: «Аб апошнім шчасці самотніка» — таго, хто з залежнага стаў самадастатковым у найвышэйшай ступені: ego дасканалае: толькі цяпер гэтае ego стала носьбітам любові: на ранейшай ступені, калі яшчэ не дасягнуты найвышэйшая адзінота і найвышэйшая форма самадастатковасці, мы знаходзім не што іншае, як любоў.

Чацвёртая кніга, якая ахінае дыфірамбамі: «Annulus aeternitatis». Жаданне перажыць усё яшчэ і яшчэ раз — вечна.

«Бесперапыннае пераўтварэнне» — за кароткі адрэзак часу прайсці праз мноства індывідуальнасцей. Сродак — нястомная барацьба».

Гэтыя нататкі, датаваныя 26 жніўня 1881 года, належаць Фрыдрыху Ніцшэ. Гэта план яшчэ не напісанай ім кнігі, якая атрымае пазней назву «Так сказаў Заратустра. Кніга ўсім і нікому». Гэтая назва аказалася слушнай настолькі, што чацвёрты яе том, скончаны ў 1885 годзе, меў паметку: «Толькі для маіх сяброў, але не для публікацыі». Трохі пазней, калі ён быў усё ж такі выдадзены на правах рукапісу, свае сорак аўтарскіх асобнікаў Ніцшэ вырашыў падараваць тым, хто змог зразумець ягоныя думкі. Але раздадзена было толькі сем кніг —настолькі самотным быў філосаф, настолькі далёкім было грамадства ад разумення яго ідэй.

Час, калі стваралася гэтая кніга, нагадвае цяперашні ўжо тым, што тагачасная Еўропа была арэнай войнаў — захопніцкіх і вызваленчых, рэвалюцый і контррэвалюцый, барацьбы новага са старым. Еўрапейская цывілізацыя выпрацоўвала новае разуменне старых паняццяў жыцця, чалавека, культуры, веры, грамадства... Тады, больш за сто гадоў таму, Ніцшэ спрабаваў замест старых каштоўнасцей, тых, што страцілі сваю вартасць, стварыць новыя, невядомыя дагэтуль. Гэтая кніга — аб стварэнні новага чалавека.

«Вучэнне аб звышчалавеку, — пісала Лізавета Фёрстэр-Ніцшэ, —больш чым якаянебудзь іншая ідэя можа быць зразумелым дакладна толькі праз сувязь з іншымі вучэннямі аўтара «Заратустры» : аб паслядоўнасці ступеняў грамадства, аб празе ўлады, аб пераацэнцы каштоўнасцей. Ён (Ніцшэ — У.П.) зыходзіць з таго, што хрысціянства, якое ўзнікла і вырасла на глебе незадаволенасці жыццём слабых і пакрыўджаных, не ўспрыняло, а адкінула ўсё, поўнае моцы, прыгожае і гордае, ўсё створанае і замацаванае сілай, усё, што ўладна патрабавала жыццё, усё, што ўзвышала жыццё — бязмерна прынізіла. Але цяпер новыя каштоўнасці, узнесеныя перад чалавецтвам, новы запавет: моцны, уладарны, поўны жыцця прыгожы чалавек і вышэйшае ягонае ўвасабленне — звышчалавек. І, авалодаўшы намі цалкам, ён стане для нас пачуццём, якое паліць, мэтаю нашага жыцця, нашай волі і нашае надзеі».

Але Ніцшэ так і не быў зразуметы. У перакладзе «Заратустры», выдадзеным у 1913 годзе ў Расіі, царкоўнай цэнзурай былі скасаваны асобныя раздзелы. Германскі рух нацыянал-сацыялістаў ці не ад пачатку свайго існавання абвяшчаў Ніцшэ сваім духоўным папярэднікам. А у 1923 годзе творы філосафа былі афіцыйна забаронены ў СССР...

«Так сказаў Заратустра» — кніга, беларускі пераклад якой убачыў свет праз 94 гады пасля смерці аўтара, калі даўно ўжо спала хваля адрасаваных ёй беспадстаўных пахвал і беспадстаўных праклёнаў. Як будзе яна ўспрымацца ў нашай краіне, дзе працэс стварэння новых каштоўнасцей і пераасэнсавання старых затрыманы на дзесяцігоддзі, толькі пачынаецца?

Можна быць пэўным: кніга Ніцшэ дасць тэмы да разважанняў і абаронцам правоў народа і прыхільнікам свабоды асобы, вернікам і атэістам, людзям старой і новай маралі. І важна ўжо тое, што яна з'явілася, каб спадарожнічаць нам у духоўных пошуках. Частка досведу чалавецтва стала часткай і нашага досведу.

А тыя, што адмаўляюць яго разам з ідэямі Фрыдрыха Ніцшэ, змогуць, прынамсі, прачытаць кнігу, напісаную з пачуццём стылю і густу, якая можа стаць узорам зліцця філасофіі і паэзіі.

**У.ПАНАДА.**

